Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4780) 8 жніўня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Паводле ўказа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, дзяржаўных узнагарод удастоены 93 работнікі розных сфер, у тым ліку прадстаўнікі адукацыі, культуры і мастацтва. Ордэнам Пашаны адзначаныя генеральны дырэктар Беларускага тэлеграфнага агенцтва Дзмітрый Жук і начальнік Цэнтра сувязі і аўтаматызаваных сістэм БелТА Самуіл Рыжэвіч, першы намеснік старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Сяргей Чыжык. Ганаровае званне «Народны артыст Беларусі» прысвоена артысту-вакалісту, вядучаму майстру сцэны Гомельскай абласной філармоніі Галіне Паўлянок.

✔ Выстаўка, прысвечаная стагоддзю пачатку Першай сусветнай вайны, адкрылася ў музеі абароны Брэсцкай крэпасці. Сумесны праект мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» і Калінінградскага абласнога гісторыка-мастацкага музея аб'ядноўвае дзве экспазіцыі: «Брэст-Літоўская крэпасць. Вялікая Еўрапейская вайна» і «Першая сусветная вайна. Эпоха. Людзі. Лёсы». У беларускай частцы з фондаў мемарыяльнага комплексу прадстаўлены фатаграфіі, паштоўкі, прадметы побыту і асабістыя рэчы афіцэраў гарнізона Брэст-Літоўскай крэпасці, які дыслакаваўся тут у 1914 — 1915 гадах.

✔ Настаўніца з Гомеля Юлія Філаненка заняла другое месца ў конкурсе на лепшы ўрок гісторыі сярод маладых педагогаў на тэму «Першая сусветная вайна на карце Саюзнай дзяржавы». Беларуска прэзентавала журы працу «Горад на лініі фронту: гісторыя Гомеля ў вялікай вайне». Узнагароджанне пераможцаў адбылося ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце імя М. В. Ламаносава.

✔ У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі з'явіліся аўдыягіды. Цяпер кожны зможа пачуць інфармацыю пра творы мастацтва, прадстаўленыя ў музеі. Звесткі падаюцца на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. У фанаграму ўвайшлі двух- і трохмінутныя апавяданні пра 90 экспанатаў музейнай калекцыі. У перспектыве плануецца пашырыць спіс аўдыятэкстаў, пры фарміраванні якога будуць улічвацца пажаданні наведвальнікаў.

✔ Прэм'ера спектакля «Пясняр» рыхтуецца ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. Пастаноўка прысвечана творчасці заснавальніка ансамбля «Песняры», народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна. Спектакль ладзіцца рэжысёрам Валянцінай Еранькової па п'есе драматурга Васіля Дранько-Майсюка. Галоўную ролю выканае Сяргей Жбанкоў.

✔ Першы нацыянальны канал Беларускага радыё аб'явіў прыём заявак на ўдзел у IV Рэспубліканскім творчым радыёконкурсе «Маладыя таленты Беларусі». Сёлета творчыя спаборніцтвы пройдуць са жніўня па снежань у чатырох намінацыях: «Эстрадны вакал», «Інструментальная музыка, салісты», «Інструментальная музыка, ансамблі», «Спадчына» (творчы пошук у галіне этнічнай музыкі). Праявіць сябе могуць маладыя людзі ва ўзросце ад 10 да 21 года.



# Мінулае з шаўковых нітак



Фота Кастуся Дробава. Калаж Віктара Калініна

**Убачыць, як апраналася беларуская шляхта, можна не толькі на партрэтах, але і ўжывую. Дзесяць унікальных экспанатаў прадстаўлены на выстаўцы «Залататканы шоўк, бясцэнны па рабоце», якая адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**

Калекцыя ўключае два ўзоры мужчынскага шляхетнага касцюма часоў Рэчы Паспалітай — кунтуш і жупан, а таксама восем кунтушовых паясоў другой паловы XVIII — XIX стагоддзяў. Шаўковыя каштоўнасці, вытканыя на мануфактурах Рэчы Паспалітай, Расіі і Францыі, сталі здабыткам грамадскасці дзякуючы мінскаму калекцыянеру, які пажадаў застацца невядомым.

Кунтушовыя паясы, прадстаўленыя ў музеі, вельмі блізкія знакамітым слуцкім па дэкоры, памерах і каларыстычнай гаме. Яны таксама з'яўляюцца ўзорамі ручнога ткацтва таленавітых майстроў, якія ўмелі ствараць вырабы цудоўнай якасці на аснове злучэння шаўковых, залатых і срэбных нітак. Звязаць паясы з канкрэтнымі мануфактурамі дазваляюць размешчаныя на іх тканыя пазнакі ў выглядзе пэўных ініцыялаў.

Так, адзін з паясоў, выстаўленых у музеі, быў створаны хутчэй за ўсё на Слуцкай мануфактуры, таму адрозніваецца асаблівым арнаментам і дэкорам, якія сімвалізуюць мясцовую флору, гэта значыць контуры раслін, а таксама «рыбную луску». Пры яго вырабе выкарыстоўваліся традыцыйныя шаўковыя і залатыя ніткі, а дадатковым упрыгожаннем сталі малюнкі букетаў з вазонамі па баках.

У іншым вырабе, які «нарадзіўся» на Ліёнскай мануфактуры, пераважае пяшчотны ружовы колер, акрамя таго, аблямоўка аформлена ў выглядзе спіралі, што характэрна для французскіх ткачоў.

Пояс, які прыехаў з Кракаўскай мануфактуры, мабыць, адзін з самых прыгожых — дзякуючы экзатычным усходнім узорам.

А вось старадаўні тканы экспанат з Расіі адрозніваецца тым, што зроблены з чыстага шоўку, без дадання металізаваных нітак. Цікава, што ён амаль у два разы шырэйшы за паясы, зробленыя на слуцкі манер.

Не менш цікава пабачыць і мужчынскія касцюмы. Прыкладам, жупан з вузкімі рукавамі і каўняром-стойкай. На яго апраналі доўгі кунтуш і падвязвалі поясам. Касцюмы створаны з аксаміту і парчы, упрыгожаны срэбнымі гузікамі. У беларускіх музейных архівах такія экспанаты з'явіліся ўпершыню, што надае ім яшчэ больш каштоўнасці.

Азнаёміцца з шэдэўрамі, якія, дарэчы, знаходзяцца ў выдатным стане, пагрузіцца ў далёкую і велічную эпоху можна да канца кастрычніка. Выстаўка «Залататканы шоўк, бясцэнны па рабоце» стане адкрыццём не толькі для навукоўцаў і даследчыкаў, але і для шырокага гледача.

Марыя ВОЙЦІК

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі



# Праз пераемнасць традыцый — да ўласнага стылю

**Пачынаць шлях у літаратуру нялёгка. Творцу-пачаткоўцу не зашкодзіць парада больш дасведчанага калегі па пяры. Сённяшняя гутарка з сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгіем Марчуком — пра падтрымку творчай моладзі.**

**— Георгій Васільевіч, вядома, што ўжо тры гады маладым літаратарам прысуджаецца стыпендыя СПБ…**

— Рашэнне выплачваць стыпендыі было зацверджана на Прэзідыуме СПБ. Хаця сумы невялікія, гэта стымул для далейшай творчасці. Напрыканцы года кожны стыпендыят прадстаўляе кіраўніцтву СПБ уласныя напрацоўкі: вершы, апавяданні, эсэ... Канечне, надрукаваць адразу ўсё не ўдаецца. Але нашы рэкамендацыі ўлічваюцца, і многія маладыя творцы выдаюць кнігі з дапамогай абласных пісьменніцкіх арганізацый, а Мінскае гарадское аддзяленне ў 2011 годзе пры падтрымцы выдавецтва «Чатыры чвэрці» заснавала кніжную серыю «Мінскія маладыя галасы».

Працуем з моладдзю ў некалькіх кірунках і шчыра вітаем тых, хто прыносіць да нас першыя рукапісы, звяртаецца па кансультацыі. Найбольш актыўныя — Мінскае гарадское аддзяленне СПБ, а таксама Віцебская і Гомельская абласныя арганізацыі. Такім чынам выяўляем таленавітых творцаў па ўсёй краіне.

Сёлета ў нас 11 стыпендыятаў, сярод якіх ёсць і кандыдаты ў члены СПБ (як, напрыклад, Настасся Нарэйка), і тыя, хто ўвайшоў у яго склад некалькі месяцаў таму. На іх, безумоўна, ускладаем пэўныя надзеі, падахвочваем да ўдзелу ў творчых конкурсах, адзін з якіх прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Адметным паэтычным талентам валодаюць маладыя сябры СПБ: Антон Янкоўскі з Гродна, Вольга Маляннікова-Куляшова з Магілёва, Марыя Маліноўская з Гомеля — студэнтка маскоўскага Літінстытута. У ліку стыпендыятаў і гомельская паэтэса Іна Спасібіна. Цешыць, што маладыя літаратары шукаюць уласны стыль.

**— Якія яшчэ шляхі стымулявання маладых аўтараў?**

— Можна ўтвараць паэтычныя клубы ў школах, ліцэях, каледжах, універсітэтах, як робяць Мінскае гарадское і Віцебскае абласное аддзяленні СПБ. Юнаком і я наведваў творчую студыю пры столінскай раённай газеце «Навіны Палесся». Гэта стала першым крокам у вялікую літаратуру.

Нядаўна сумесна з рэдакцыяй часопіса «Роднае слова» мы правялі конкурс, прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі. Ён дапамог выявіць на дзіва таленавітых творцаў, якія цягнуцца да беларускага слова. Часта ладзім сустрэчы ў школах, папулярызуючы родную мову. У гэтым і палягае несупыннае супрацоўніцтва пісьменнікаў з настаўнікамі ды вучнямі.

**— Ці ёсць розніца паміж сучаснымі маладымі літаратарамі ды іх папярэднікамі — пакаленнем 1970 — 1980-х гадоў?**

— У савецкія часы існавалі серыі «Першая кніга празаіка», «Першая кніга паэта». А надрукавацца ў часопісах «Маладосць» і «Полымя» было даволі складана. Сёння ж можна выдаць кнігу і за свой кошт (дарэчы, некаторых такіх аўтараў мы прымаем у СПБ). Каб уступіць у Саюз пісьменнікаў, тады аўтару неабходна было мець дзве выдадзеныя кнігі. Моладзь прымалі вельмі мала, але былі выключэнні: Алесь Разанаў, Яўгенія Янішчыц. А некаторыя звярталіся ў прыёмную камісію па некалькі разоў.

Тэматыка твораў цяпер шырэйшая: кожны час нясе новае асэнсаванне жыцця. У маладых прысутнічаюць сарказм, цынізм, з'едлівая іронія. Калі мы грунтаваліся на традыцыях класікі, то цяпер пераважаюць фантастыка, містыка… Але, хоць людзі і бываюць скваліпнымі ды жорсткімі, пісьменнік усё адно застаецца і прарокам, і філосафам, і носьбітам пэўнай ідэалогіі, і абаронцам вечных каштоўнасцей.

**— Чаго ж чакаюць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі ад маладых літаратараў?**

— Актуальных, глыбока кранальных твораў. Хацелася б, каб творцы адчувалі пераемнасць традыцый.

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

# Нябесны дар

Літаратура кожнага народа мае выбраных, годных творцаў. Яны азначаюць тую ці іншую эпоху, з'яўляюцца несмяротнай часткай гісторыі дзяржавы. Ізраільская выстаўка «Хаім Нахман Бялік: шлях паэта» адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Экспазіцыя, арганізаваная Ізраільскім культурным цэнтрам пры Пасольстве Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь, прысвечана жыццю і творчасці народнага яўрэйскага песняра, класіка, аднаго з самых яскравых лірыкаў XX стагоддзя.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ізраіля ў Беларусі Іосіф Шагал падчас адкрыцця мерапрыемства адзначыў, што Хаім Нахман Бялік вярнуў яго народу, раскіданаму па ўсім свеце, родную мову — іўрыт.

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч падкрэсліла, што Янку Купалу і Хаіма Нахмана Бяліка многае аб'ядноўвае: абодва з'яўляюцца сімваламі сваёй нацыі, іх творчасць і сёння аказвае вялікі ўплыў.

У пацвярджэнне яе слоў у зале, дзе сабраліся госці ўрачыстасці, прагучалі песні на вершы як беларускага («Явар і Каліна»), так і яўрэйскага («Памірае лета») паэтаў у выкананні ансамбля «Дыліжанс-jazz». Зразумела, імпрэза не абышлася і без радкоў ізраільскага лірыка, перакладзеных Рыгорам Барадуліным.

Выстаўка прывезена з Тэль-Авіўскага Дома-музея Хаіма Нахмана Бяліка, у якім ён жыў і тварыў шмат гадоў. Экспазіцыя аб'ядноўвае творы паэта ў арыгінале і перакладзе на розныя мовы, яго лісты, знакамітыя цытаты, фатаграфіі, вокладкі і асобныя старонкі з кніг і рукапісаў, а таксама мноства іншых цікавых матэрыялаў.

Хаім Нахман Бялік нарадзіўся зімой 1873 года на хутары Рады каля Жытоміра, у сям'і лесніка. Кажуць, што ў студзеньскую змрочнасць у пакой, дзе з'явіўся малы, нечакана ўварвалася прыгожае і яркае святло, быццам абвяшчаючы цуду...

Спачатку будучы паэт вучыўся ў Валожынскай ешыве, а літаратарам і выдаўцом стаў ужо ў Адэсе. Маленькі і бедны хлопчык уласнымі рукамі рабіў з сябе сімвал адраджэння яўрэйскай дзяржавы. У 1924 годзе, пасяліўшыся ў Тэль-Авіве, Хаім Нахман стаў цэнтральнай фігурай у культурным жыцці краіны. Яго заўсёды адрознівалі спагадлівасць, дэмакратычнасць, таварыскасць.

Паэт займаўся не толькі літаратурнай, але і грамадскай працай, удзельнічаў у шматлікіх буйных пачынаннях краіны: ці то ўніверсітэт у Ерусаліме, мастацкі музей у Тэль-Авіве, ці то тэатр Габіма...

Больш за сто тысяч чалавек праводзілі яго ў апошні шлях. Лірыка Хаіма Нахмана — гэта душа Ізраіля. Сёння яго вершы і фразы — на вуснах ізраільскіх маці, якія люляюць немаўлят у калысках, у меладычных рамансах, прамовах палітыкаў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Чачня: беларускія старонкі

**У перакладзе з чачэнскай «нана» азначае «маці». «Нана» — так называецца літаратурна-мастацкі і сацыяльна-культуралагічны жаночы часопіс, які выдаецца ў Грозным на дзвюх мовах — рускай і чачэнскай.**

Нядаўна галоўны рэдактар Лула Куні даслала ў Мінск тры нумары гэтага выдання за 2013 — 2014 гады. На старонках часопіса ёсць нямала штрышкоў, што звязваюць Чачню і Беларусь.

У прыватнасці, надрукаваны артыкулы (і на беларускай, і на чачэнскай мовах) пра Максіма Багдановіча, Рыгора Барадуліна. У творчым партрэце М. Багдановіча поўнасцю цытуецца верш «Маладыя гады». Яго пераклаў на чачэнскую Руслан Кадзіеў. Ён жа — перакладчык артыкулаў. На адной са старонак пададзена інфармацыя пра кнігу «Зорная крыніца», якая ў серыі «Сугучча сэрцаў» прадставіла літаратуры народаў Расіі. Між іншым сярод аўтараў кнігі, выдадзенай у Выдавецкім доме «Звязда», — публікацыя Лулы Куні.

У часопісе «Нана» — вялікая публікацыя перакладаў на рускую мову Уладзіміра Паповіча з Самары. Поруч з Апалінэрам, Бекетам, Мілашам Чэславам і іншымі паэтамі ў яго перакладзе прадстаўлены і Рыгор Барадулін вершам з вядомага цыкла паэтычнай перапіскі народнага паэта Беларусі з Васілём Быкавым.

А ў артыкуле пра Умара Ахмадавіча Ахмадава «Свой след у літаратуры» (аўтар — А. Шахгірэева) расказваецца, як пісьменнік сустрэў Вялікую Айчынную ў Брэсцкай крэпасці. Згадваецца і аповесць чачэнскага пісьменніка Халіда Ашаева «Вогненны арэшак» пра Брэсцкую крэпасць і яе абаронцаў у 1941 годзе.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Гутарка пра надзённае

Пытанні грамадскага і творчага жыцця рэгіянальнай літаратурнай суполкі абмеркаваны на чарговым пасяджэнні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ.

Размова ішла пра падрыхтоўку чарговага, ужо восьмага па ліку, берасцейскага нумара часопіса «Маладосць», які традыцыйна выходзіць у кастрычніку, — напярэдадні ўручэння літаратурнай прэміі Брэсцкага аблвыканкама імя У. А. Калесніка. Абмяркоўвалі таксама ўдзел брэсцкіх творцаў у рэспубліканскіх і мясцовых акцыях ды праектах, у ліку якіх — «Лета з добрай кнігай», «Бульвар, які чытае», «Зноў памяці звіняць званы», «Майстры літаратурнага радка», «Мы — берасцейцы».

Звярнулі ўвагу на праблемы рэалізацыі беларускай кнігі ў рэгіёне. Меркавалі, як зрабіць больш даступнымі творы айчынных пісьменнікаў. Рыхтуемся і да сустрэчы ў сярэдзіне верасня на Берасцейшчыне літаратараў з Варшавы (беларуска-руска-польскамоўных) на чале з лаўрэатам прэстыжных міжнародных прэмій рэдактарам часопіса «Паэзія сёння» Аляксандрам Наўроцкім.

Падчас пасяджэння былі ўручаны ўзнагароды. Медалямі «За вялікі ўклад у літаратуру» ўганараваны пісьменнікі Зінаіда Дудзюк і Валерый Грышкавец, званнем «Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі» — Расціслаў Бензярук, дыпломамі СПБ — Аляксандр Валковіч, Любоў Красеўская, Георгій Тамашэвіч, ганаровымі граматамі абласнога аддзялення СПБ — Марыя Ляшук, Юрый Мацюшка, Уладзімір Сітуха, Надзея Парчук, Марыя Кобец, Анатоль Бензярук…

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ**

# Вызваленню прысвечаны

Выйшаў з друку чарговы (дзясяты) выпуск альманаха «Армія і культура», які з'яўляецца дадаткам да часопіса «Армія». Выданне падрыхтавана студыяй ваенных пісьменнікаў сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем, выдадзена ваенна-інфармацыйным агенцтвам Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь «Ваяр».

Альманах прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Проза ў юбілейным нумары прадстаўлена творамі Алеся Савіцкага, Мікалая Чаргінца, Васіля Ткачова, Ула-дзіміра Карпава, Міхаіла Аляксеева, Валянціна Распуціна, Валерыя Ганічава. Паэзія — вершамі Міколы Мятліцкага, Міхася Пазнякова, Ігара Ляпіна, Міхаіла Хонінава, Станіслава Куняева, Браніслава Кежуна, Яўгенія Далматоўскага, Мікалая Іванова і Міхаіла Токарава.

У раздзеле публіцыстыкі змешчаны артыкулы Яўгена Каршукова, Мікалая Дуброўскага, Уладзіміра Макарава, Аляксандра Твардоўскага. Аматары літаратурнай крытыкі пазнаёмяцца з малавядомым артыкулам Івана Шамякіна «Пра аўтара і яго аповесць», у якім пісьменнік узгадвае пра ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны Мікалая Дуброўскага і яго дакументальную аповесць «Неўміручасць подзвігу», першае выданне якой пабачыла свет у 2001 годзе.

Святочны выпуск альманаха істотна дапаўняюць мастацкія палотны членаў студыі ваенных мастакоў пры Цэнтральным Доме афіцэраў УС Рэспублікі Беларусь Мікалая Апіёка, Уладзіміра Уродніча і Уладзіміра Гардзіенкі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Памяць

# Вярнуць імёны з небыцця

**Часу ўласціва сціраць з твару зямлі розныя сляды. Але тое, што захоўвае памяць людская, не можа адысці ў нябыт. Амаль на стагоддзе пакрыліся ценем падзеі, звязаныя з Першай сусветнай вайной. Аднак урокі мінулага не даюць спакою і адгукаюцца болем у душах неабыякавых людзей, якія заклікаюць грамадства быць абачлівым, асэнсоўваць перажытае.**



Падчас памятнага мерапрыемства з нагоды 100-годдзя Першай сусветнай вайны.

Падзвіжніцкая дзейнасць мастака Барыса Цітовіча — таго самага, што стварыў у вёсцы Заброддзе на Вілейшчыне своеасаблівы духоўны цэнтр, знайшла вялікае кола прыхільнікаў. Барыс Барысавіч — адзін з тых, хто надаў тэме Першай сусветнай вялікае грамадскае гучанне і ўласным прыкладам паказаў, як трэба ставіцца да гістарычнага мінулага.

У 1975 годзе ён выявіў брацкія могілкі лазарэта № 1 29-й пяхотнай дывізіі 20-га армейскага корпуса 2-й расійскай арміі. З таго часу саборнымі намаганнямі пры падтрымцы мясцовых улад і з дапамогай навучэнцаў Вілейскага каледжа могілкі сталі месцам пакланення загінуўшым героям той вайны.

У сераду ў Заброддзі было мнагалюдна. Барыс Цітовіч лічыць гэта добрым знакам. Мастак падкрэсліў, што мы павінны скарыстаць шанс рэабілітавацць сябе перад продкамі, бо ўпэўнены: не трэба шукаць вінаватых, лепей знайсці ўсе пагосты, каб не зараслі яны быллём на нашай зямлі.

**Алена СТЭЛЬМАХ, фота аўтара.**

# Нясвіж — Парыж

**Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» прадстаўляе новы арт-праект «Падарожжа з Парыжа ў Нясвіж» беларускай мастачкі Ірыны Котавай. Больш як дзесяць гадоў яна жыве і працуе ў Францыі.**

Сёння ў Вялікай зале палацавага ансамбля адкрываецца аднайменная выстаўка, дзе будзе паказана больш як шэсцьдзясят карцін творцы. Работы, выкананыя пераважна ў тэхніцы пастэлі, раскрываюць назву экспазіцыі і запрашаюць у мастацкую вандроўку са сталіцы Францыі ў культурную сталіцу Беларусі — старадаўні Нясвіж. Чатырнаццаць карцін, прысвечаных нядаўна адроджанай рэзідэнцыі знакамітага роду Радзівілаў, Ірына Котава на працягу некалькіх месяцаў стварала ў Нясвіжы. Тут яны ўпершыню будуць паказаны наведвальнікам палаца.

Падчас адкрыцця выстаўкі ўвазе гледачоў прапануюць музычна-літаратурна-мастацкі перформанс, у якім возьмуць удзел сама мастачка, французскі пісьменнік і публіцыст Крыстоф Левалуа, музыканты Галіна Мацюкова (Мінск) і Дзмітрый Зубаў (Санкт-Пецярбург). Арганізатарамі праекта выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Беларусі ў Францыі і Пасольства Францыі ў Беларусі.

Ірына Котава, член Парыжскага саюза мастакоў, скончыла аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Яе работы экспанаваліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, галерэях Францыі, Італіі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Канады і ЗША. Дакументальны фільм «Уяўны Парыж» (Белтэлерадыёкампанія, 2010 г., рэжысёр Сяргей Кацьер), які распавядае пра мастачку, стаў лаўрэатам XXI Міжнароднага кінафоруму «Залаты Віцязь».

**Раіса МАРЧУК**

Фоташтрых



Фота Алены Стэльмах

Цікава праходзіла ў Беразіно гарадское свята ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». У госці да юных чытачоў, іх бацькоў і настаўнікаў завіталі дванаццаць літаратараў. Сярод іх — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, дыпламант рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор года — 2013» Кацярына Хадасевіч-Лісавая, якую вы бачыце на здымку ў атачэнні юных аматараў чытання.

Акцыі

# Кніжныя прыкметы лета

**Самая шматлікая аўдыторыя выдавецтва «Народная асвета» — школьнікі. Для іх выпускаюцца падручнікі, пазнавальныя навукова-папулярныя кнігі і дапаможнікі, мастацкая літаратура. Нядзіўна, што акцыю «Лета з добрай кнігай» тут успрынялі як кроўную справу!**

Выязныя сустрэчы з чытачамі ў школах, бібліятэках Мінска, а таксама найбліжэйшых да сталіцы раёнаў супрацоўнікі выдавецтва праводзяць круглы год. Раней — за выключэннем канікулаў. А сёлета зусім інакш. У кніжную акцыю актыўна ўключыліся дзіцячыя аздараўленчыя лагеры. Работнікі сектара маркетынгу «Народнай асветы» Жанна Рэзнік, Алена Вайцяхоўская і Наталля Ражко наведалі лагеры «Спадарожнік» у Мінскім і «Лясны агеньчык» у Валожынскім раёне, дзе правялі прэзентацыю кніг Галіны і Сяргея Трафімавых «Азбука юнага пасажыра» і «Азбука юнага пешахода», а таксама выдадзенай імі пазнавальна-займальнай бібліятэчкі ў серыі «Рассказы Дзеда Прыродазнаўцы».

Галоўнае ж, што застаецца нязменным у асветніцкай рабоце, — арганізацыя сустрэч юных чытачоў з беларускімі пісьменнікамі, чые кнігі пабачылі свет пад грыфам выдавецтва. У ліку тых, хто гэтым летам склаў кампанію выдавецкім маркетолагам, — Анатоль Зэкаў, Міхась Пазнякоў, Мікола Чарняўскі.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Заспявала ў дрэве «Стрілка»

Помнік старажытнаму мясцоваму абраду з'явіўся на Драгічыншчыне. Па-тутэйшаму ён называецца «Стрілка», гэта значыць «страла», «стрэлка». Раз на год пасля ўрачыстага Вялікоднага богаслужэння жанчыны вёскі Бездзеж ідуць карагодам і выконваюць старажытную песню.

Гэты год стаў знамянальным для «Стрілкі». У студзені абрад атрымаў статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці Беларусі. А ў чэрвені зроблены новы крок па захаванні традыцыі — «Стрілцы» пастаўлены помнік.

Ідэя ўвекавечыць звычай належыць загадчыцы аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра Ларысе Быцко. У яе нават быў намер прысвяціць бездзежскаму карагоду цэлы разьбярскі пленэр. Але ў рэшце рэшт было вырашана ўключыць «Стрілку» ў тэму «Абрадавае кола беларусаў» найбліжэйшага XII абласнога пленэра драўлянай манументальнай скульптуры.

Аўтар работы — народны майстар Рэспублікі Беларусь Уладзімір Чыквін (г. Кобрын). Прэзентацыя «Стрілкі» адбылася якраз падчас закрыцця пленэру. Увазе публікі былі прадстаўлены і работы іншых майстроў, паяднаныя тэмай «Абрадавае кола беларусаў»: «Каляда» (Мікалай Скляр, г. Гродна), «Купалінка» (Валерый Манцэвіч, г. Драгічын), «Ваджэнне куста» (Аляксандр Лазерка, Брэсцкі раён) ды інш. Дарэчы, скульптура А. Лазеркі ўвасабляе ў дрэве лакальны старажытны абрад, які на Сёмуху можна ўбачыць на Палессі.

Дзесяць работ упрыгожылі сядзібу музея народнай творчасці «Бездзежскі фартушок», а паклонны крыж, выкананы Анатолем Турковым, быў усталяваны ля Троіцкай царквы акурат на свята Троіцы.

**Людміла БУНЕЕВА, фота аўтара**



«Стрілка» і яе аўтар Уладзімір Чыквін.

# На фэст да шапавалаў

Фэст «Дрыбінскія таржкі» адбудзецца ў так званай «Краіне шапавалаў». Гэта новы брэнд Дрыбінскага раёна, знакаміты старажытным промыслам, — вырабам валёнак, рукавіц, шапак-магерак і асаблівай прафесійнай мовай "катрушніцкі лемезень".

Тут таксама захоўваюцца традыцыі вытворчасці сапраўдных лапцяў, абрадавых лялек, ткацтва, саломапляцення. І цяпер Беларускае грамадскае таварыства «Адпачынак у вёсцы» сумесна з Літоўскай асацыяцыяй сельскага турызму рэалізуе праект "Устойлівае развіццё Дрыбінскага раёна на аснове культурнай спадчыны».

У межах праекта прайшло ўжо некалькі сустрэч прадстаўнікоў мясцовай улады, майстроў-шапавалаў, гаспадароў аграсядзіб, на якіх абмяркоўваўся план стратэгічнага развіцця турызму, распрацоўвалася канцэпцыя брэнда Дрыбіншчыны. Прадстаўнікі раёна наведалі Літву, дзе абмяняліся досведам з гаспадарамі сядзіб і іншымі прадстаўнікамі сельскага турызму.

Падчас «Дрыбінскіх таржкоў» выступілі творчыя калектывы, прайшлі майстар-класы народных промыслаў і рамёстваў, конкурс падворкаў. «Таржковыя крамніцы» прапаноўвалі розныя цікавосткі. Усе жадаючыя маглі набыць сувеніры з поўсці ды падабраць сабе валёнкі альбо паўдзельнічаць у народных гульнях.

**Міра ІЎКОВІЧ**

## Алесь КАРАНЕЎСКІ



***

Я выкраў зноў цябе у сонца,
Ды вось усмешку ловіш ты,
І кветкі з соннай нематы,
Як мы пазналі ноч да донца…

А ранак яснай хваляй льецца...
І зачараваны... смялей,
Заве і вабіць салавей
Удзячным хваляваннем сэрца!

***

Боскі досвед цудоўных вандровак —
Гаспадар ты сабе ці прымак,
Але скрэмзаў паперу аловак
Светлым водгукам
простых падзяк...

Зноў раптоўна злятае маўленне:
Цемрай ночы ці сонечным днём.
І калышыцца радасць імгнення
Незвычайным, таемным агнём.

І абшарным уздыхам свабодным,
Дзе душа пад сцяленнем — вышэй —
Разліваецца ветрам лагодным —
Ціхім шэптам
і бляскам вачэй!..

***

Чароўным ветахам усплыла
Таемнасць на абшарах ночы,
І прысак дзённага святла
Пускае ў цемру зоркі-вочы.

Я назіральнік і ўладар,
Нічым не горшы і не лепшы,
Другіх такіх імгненняў-мар, —
Прымаю з небам свет тутэйшы.

Мігціць цудоўны чарнаслііў
І цішынёй звініць бязмежжа…
І млее радасці прыліў —
Няўжо мне гэта ўсё належыць?

Рачулка, хаты, летні сад,
Бяроз суседскае бяссонне,
Люляюць сонны далягляд
Радзімы цёплыя далоні!

Лаўлю імгненне мураша!
Увесь Сусвет глядзіць мне ў вочы!
Ці, можа, з Вечнасцю душа
Гамоніць ціха ў свеце ночы?..

***

Намаганняў попыт кожны дзень
Гоніць верхам марныя сумненні.
І дзівосны казачны алень
Там ляціць, як радасці імгненне...

Вось жыццё — цудоўны светлы план,
Звязаны нябачнаю надзеяй.
Там людскі бушуе акіян
На паверхні ў холадзе надзеяў.

І чаго там толькі ні было —
Страшна помніць, але помніць трэба.
Вось і побач жахам загуло…
Хто мы? Што ў нас? Так далёка неба!

Злоба, помста — і крывавы сок!
Мы ўсе побач, ці пустыя словы?..
Ад аленяў светлых толькі крок —
Крок апошні... і зусім не новы.

## Жанна УСЦІНАВА



### Пра бэзавы водар

Змываючы тлумы з плошчаў,
ліў дождждык.

Страсаючы саду квецень,
дзьмуў вецер.

У абдымкі спужаны горад
браў холад.

За хмарай знайшоўшы месца,
знік месяц.

Змрок пашчу сваю ашчэрыў —
змоўк шчэбет.

За новым сталом вячэраць
без чэрвень.

І ў гэтым спектаклі танным
нёс тайну

уладар расчыненых вокнаў —
бэзавы водар.

### Лунанне

Чаму, як прыходзяць ночы,
душа мая спаць не хоча?
Галубкай у шыбку б'ецца,
натхнёна лунаць імкнецца
над ціха спачылым летам
у засені шэрых праспектаў,
над гмахамі цьмяных вуліц,
падобных удзень на вулей,
над плошчай, дзе зоркі лічыць,
астролаг у дзіўным абліччы,
над цркавак купаламі,
над хаткамі і мурамі,
над стужкай Дняпра сівога
і росным прымглёным логам,
над стромка прыўзнятым ровам…
Над усім, што завуць Магілёвам.

### У акно цішыня ўляцела

У акно цішыня ўляцела,
вясёлыя думкі склявала,
яе я не біла, не гнала:
на крылах —
адны летуценні.

Мне б ёй зазірнуць у вочы,
усе там закуткі абшнарыць,
каб ясныя выспеліць мары
на цёмных галінах ночы.

***

У акне снуе завейны сум,
белы-белы,
асляпляльна чысты.
Я яго хапаю і нясу
да цябе,
адзінага,
урачыста.

Падзівіся,
прачытай са мной
гэты дзень,
невыпадковы, дзіўны.
Ў яго тэме —
белае віно.
Ў яго рыфме —
хмельная наіўнасць.

Холад за акном…
І цеплыня
тваіх вуснаў
і тваіх далоняў,
што кранаюць
мімалётнасць дня,
што сабой
завейны сум заслоняць.

***

Падары мне адзіны расток
з густаквецені тваіх сноў,

ці карэньчык адзін пусці
на бяссонні маім узрасці,

альбо семкаю дапамажы —
кінь у бессань чорную жыць.

Калі ты ў сонных гушчах спіш
і наўкола духмяная ціш,

я на голым полі без сноў
да світанку спялю любоў.

## Казімір КАМЕЙША



### Невядомы салдат

Далёка так і блізка так ад дому,
З гары высокай узыходзіць ён.
Быў невядомым,
Стаўся найвядомым,
Няма нідзе вядомых больш імён.

Праслаўліцца на небе можна гэтак,
А ён абняў усю зямлю саму.
І болей, чым вядомым самым, кветак
Прыносяць, невядомаму, яму.

Гарaць ля ног і ружы, і півоні,
І вечны сумна ўздрыгвае агонь.
І цэлы свет схіляецца ў паклоне,
І кленчыць, і нямее ля яго.

Плывуць сюды вясельныя картэжы,
Прамыя і схілёныя ідуць.
У памяці няма й не будзе межаў —
Жывыя разам з мёртвымі жывуць.

Ён кожнаму — і родзіч, і знаёмы,
Хоць таямніца разам з ім ляжыць.
Ёсць ён, адзін, вядомы Невядомы,
Любой матулі ў свеце не чужы.

Ужо даўно ўсе ведаем яго мы
Праз памяць сэрцаў, святасці і дат.
Ёсць прозвішча ў героя —
Невядомы.
Ёсць і імя, звычайнае, —
Салдат!..

***

Было юнацтва, як дзівацтва,
Нібы ў аправе залатой.
Быў сон без права прачынацца,
Як дол з адвечнай мерзлатой.

З маіх лужкоў, з азёр аправу
Знішчала жорсткая рука.
У забыццё пабегла прама
І там згубілася рака.

Якія сілы нас натхнялі,
Я й сёння ўцяміць не магу.
Адных няшчадна выпрамлялі,
А іншых гнулі у дугу.

Усіх забытых не аплачаш,
Тых не пярэймеш, хто блудзіў.
Як шмат было галоў гарачых!
Іх вецер часу астудзіў.

Ламала,
путала
і секла,
Каціла на жыццёвы ўскрай.
У рай няма шляхоў праз пекла,
Нам і не сніўся нават рай.

Ды што было — не ўсё былое,
Яно не падуладна сну,
Бо мае самае малое
Вялікай памяці цану.

### Акінчыцы

У лесе ціха, бы ў гуменцы,
Зара палае, як загнет.
Акінчыцы — маё акенца
У Коласаў вялікі свет.

У ім птушыны спеў журчыніць,
І шэпт малітвы лісцявой.
Не зачыняй, бо не зачыніш,
Бо ў свет адчынена яно.

Паплач, як высахне крыніца,
Няхай у песні хоць жыве
Ды ў цёмным воку прамяніцца,
Брыво падрэзвае траве.

Хоць напрасткі бяжыць дарога,
Ды заварочвае сюды.
Я папрашу ў жыцця самога
Шчаслівых колаў і хады.

Акінчыцы,
Тваім акенцам
Чакаю сонца
і дажджу.
І асцярожна
б'ецца сэрца,
Бо праз яго
на свет гляджу.

***

Ты не ішоў туды,
Дзе звабна, дзе выгодней.
Агорне часам сум,
Старонку дзён адгорне

З той кнігі, што пісаў
У часе незацішным,
Калі ў ціскі жыды
Сам час
цябе заціснуў.

Спагады не шукаў
І не чакаў спагады.
Ізноў маю граду
Пабіла лета градам.

Хай часу ветразлуй
Калоціць і хістае,
А я ніжэй травы,
Цішэй вады
не стану.

### Надлом

Памяці акторкі Галіны Бальчэўскай

Самотніца,
З-пад Вербніцы галіна
Свой каташок
прынесла мне зімой.
«Аддам жыццё,
А ты мне дай хвіліну!»—
Калісьці так сказалася само.

А лепш бы не казалася такое,
Хвілін шчаслівых нават больш было.
За белай лебядзінаю рукою
Успыхнула і белае крыло.

Калі плятуцца мроі шэрым роем,
Заўсёды сэрцу прагнецца крыла.
Была адна у гэтай драме роля,
Якую ты
не йграла —
Пражыла.

Вярбу, і праўда, абламалі рана,
І хоць усё вакол пайшло на злом,
Гаілася і там, дзе надламана,
Балела, але зноў ішло на злом.

Было няўлоўным, нават недасяжным
Усё, што ўслед за выраем плыло.
Да шчасця не хапала толькі сажня,
Калі ты надламалася, крыло.

Як светла ад вачэй яе світае.
Аслепну хутка я ад іх, відаць.
Калі такія вочы прачытаеш,
Нічога больш не хочацца чытаць.

***

Яшчэ ён грымне адгалоссем,
Той даўні сон, што недзе знік.
Такі грымотны век пранёсся
Праз памяць нашу, як цягнік.

Яго не спыніш, не дагоніш,
Ён хуткім зваўся нездарма.
Прабег, як халадок па скроні,
І следу анідзе няма.

Я сам у нейкім там вагоне
Сядзеў і вёрстам вёў адлік.
Магу згадзіцца — не дагоніш.
Магу пацвердзіць — быў цягнік!

Мінаў ён Стоўбцы, Гарадзею,
Мінаў вясны маёй раку.
Няма ў каго спытаца, дзе ён.
Стаіць, напэўна, ў тупіку.

Ужо зіма даўно навокал,
Гудзе снягамі сівізна.
Ну а ў яго зялёных вокнах
Бушуе ўсё яшчэ вясна.

А я здалёк гляджу і бачу,
Як там, дзе шлях яго ляжыць,
Усё шуміць,
спявае,
плача,
Бо ведае, што прабяжыць.

Так і маё усё прабегла,
Хоць звон яшчэ ў вушах чуцён.
…Маленькая зусім адлегласць,
З адзінай станцыяй Жыццё.

# Дар'я ЛЁСАВА

# «Не выдумляй, Аня…»

## Апавяданне



Як заўсёды, думаю пра жыццё, пра ўсё добрае і кепскае, што сустракаецца на маёй дарозе. І кожны раз прыходжу да высновы: чалавек — самая вялікая загадка прыроды. І сама прырода, і тое, што акаляе нас, што з намі і над намі, — не менш вялікая таямніца. Цяпер ужо і вучоныя сведчаць пэўна, што нашы думкі матэрыяльныя, асабліва сказаныя ў роспачы і гневе. І я стараюся нікому не рабіць зла, нават тады, калі мне крыўдна. А яшчэ ўсе мы — вялікія грэшнікі, бо за стагоддзі не навучыліся ладзіць паміж сабою, прытрымлівацца Божых запаветаў! Сакральная сіла Божага слова глыбока не асэнсавана, не ўсвядомлена людзьмі. Ці не таму на Зямлі бясконца грымяць войны, і пакуты Хрыста, і Крыж Хрыста кладзецца нават на маленькіх, на нашых дзетак?

Я раскажу вам не зусім звычайную гісторыю, бо ў ёй нешта ўсё-такі, на маю думку, ёсць, што чапляе і хвалюе, не дае спакою. Нешта такое невымоўнабалючае, калі дужа шчымець і ўздрыгвае сэрца. Ва ўсякім разе, я нічога не магу забыць, хоць і было гэта даўно, тады, калі я яшчэ хадзіла ў школу.

…Суседка Анюта была з гаротных. Часта ў яе балелі, пухлі ногі, без кіёчка не магла і кроку ступіць. Жыла яна на маленькую пенсію. І не толькі сама, але яшчэ карміла і дачку-вучаніцу. Як яны жылі — аднаму Богу вядома. У доме нічагуткі не было: ні радыё, ні тэлевізара. Адзінае крэсла, на якім сядзела дачка Арына, рыхтуючы ўрокі, адзін зэдлік, стол, ды маленькая старая канапа, на якой яны ўдзвюх спалі. Адзіны пакойчык, цесная куханька, прыхожая, дзе не павярнуцца і аднаму чалавеку. Хрушчоўка… Звычайная, да таго ж запушчаная: усё абвальвалася, лупілася, падала… Цётка Анюта ўжо не магла сама кватэру ні адрамантаваць, ні памыць як след. Арына ж яшчэ ў сілу не ўвабралася, была слабога здароўя. Так і жылі яны — маці і дачка, — гаравалі, а не жылі. Як толькі захварэла цётка Анюта, яе тут жа пакінуў муж. І дачкі адцураўся. Плаціў нейкія капейкі па аліментах, і ўсё. Суседка яго не праклінала і нават не ўспамінала. Нібыта яго ніколі не было. Ні пры дачцэ, ні пры людзях, ні пры маёй маме.

Мама здзіўлялася характару гэтай гаротніцы. Усе жанчыны ў пад'ездзе абмяркоўваюць свае хатнія праблемы, яна ж, бедная, згараваная жанчына, пра адно толькі думае: як пракарміць дачушку? Па стане здароўя суседка Анюта не магла ўладкавацца ні прыбіральшчыцай, ні яшчэ куды, што было б звязана з фізічнай працай, а па спецыяльнасці яе нідзе не бралі. Патрэбны былі сувязі. Анюта мела філалагічную адукацыю, але праз перапынак у стажы і праблемамі са здароўем у школе яна ўжо рабіць не магла. Калі быў муж, дужа слугавала яму: усё чысценькае ды беленькае падавала, а сябе не глядзела. Вось так яно й выйшла. Колькі гадоў назад былы муж Анюты ажаніўся з маладой, прыгожай кабетай, у якой таксама была дачка і якая адразу ж стала айчыму як свая. І больш ні нагой бацька не ступіў на былы парог, да роднага дзіцяці. І гэтак бывае…

Я шкадавала і цётку Анюту, і яе Арынку. З дзяўчынкай мы сябравалі, разам хадзілі на прагулкі ў парк, абменьваліся кніжкамі. Цётка Анюта часта забягала да нас. То солі, то запалак, то мукі якой шклянку перахапіць, то хлеба. Таварышавалі нашы сем'і па-простаму хораша, як у вёсцы. Было, што і мы сядытады звярталіся да Анюты. Я з радасцю аддавала сваё адзенне Арынцы, з якога вырастала, помнячы пра тое, што і на мае плечы хтосьці добры часта ўскладаў то паліто, то хустачку, то жакецік… Так мы жылі-бедавалі разам. Цётка Анюта са сваім кійком абхадзіла не адну ўстанову, каб уладкавацца хоць на якую працу. Яна магла б быць добрым карэктарам. І стылістам такім, што не трэба быў бы і рэдактар. Так, як яна, наўрад ці хто ва ўсёй сталіцы ведаў родную мову. Але гэтыя веды былі незапатрабаванымі. Толькі нам, дзвюм вучаніцам, яе дачцэ Арыне і мне, яны дужа спатрэбіліся.



Малюнак Алесі Ісы

Цётка Анюта жыла ў невядомасці.

— Хто каму цяпер трэба ў гэтым свеце? — часта скардзілася яна маёй маці. — Хто каму падсабляе? Во толькі бядак бедаку што можа, тое і падможа, багатыя ж — глухія. Але яшчэ ёсць надзея ўладкавацца. Прачула я, што мая былая аднакурсніца вялікую пасаду займае, пайду да яе, — неяк радасна паведаміла нам суседка.

І, праўда, неаднойчы звярталася да яе Анюта са сваімі горкімі слязамі. І званіла ёй, а тая ўсё абяцала, абяцала: «Во ўжо як пойдзе на пенсію карэктарка, тады цябе возьмем».

А час не чакаў. Вось і карэктарка пайшла на пенсію, і многае што мянялася ў тым выдавецтве, дзе працавала былая аднакурсніца, амаль сяброўка Анюты, але яе ў карэктары не бралі. Анюта дазналася аб усіх зменах ад сакратаркі. І, прыходзячы да маёй мамы, часта плакала, уздыхала:

— Здзіўляюся я, Варка, як няроўна дзеле Бог. Яна ж пень у беларускай мове, ну нічогенькі не ведае, і пісаць не можа, і рэдагаваць тым больш, але ж вось, на табе, — рэдактар у выдавецтве! Гэта каб мне, студэнтцы яшчэ, сказалі пра такое калісьці, я па-дзікунску смяялася б. Я ж і вершы некалі пісала і, увогуле, добрую літаратурную будучыню мне прадракалі, а, бач, як лёс склаўся. На кавалак хлеба ўласнаму дзіцяці зарабіць не магу. А яна вось — далёкая ад літаратуры, тлушч з пысы сочыцца, уся ім заплыла, доіць гэтую літаратуру, мамкай яе для сябе зрабіла! І каб ты бачыла, як са мной размаўляе: усё звысоку, як з ніжэйшай сабе па рангу, як з нікчэмнасцю якой. Дзень яе, кажуць, складаецца з бясконцага чаявання. Калі ні прыйдзеш, на рабочым стале — то кава, то гарбатка. Ёсць у яе роўня сабе — таксама начальніца, таксама галоўны рэдактар. І тая — зусім не філолаг (у філалогіі — ні бэ, ні мэ!), таксама кіруе, таксама некім звысоку пастаўлена кіраваць. А што ім — за іх простыя рэдактары працуюць! Тыя, хто ведае мову, літаратуру… Ай, ды што казаць! Гэта заўсёды было. Няроўны лес — няроўныя і людзі.

І мы з мамай балюча перажывалі за Анюту. Яна і сапраўды магла быць дужа карысным таму выдавецтву. І чаму яе не магла ўзяць на працу яе былая аднакурсніца? І тут скеміла мая мама:

— Ой, Анюта, яна ж баіцца, проста баіцца цябе браць! Баіцца, каб ты не абурылася гэтак каму-небудзь з выдацоў, як перад намі абураешся, якім чынам яна, нязнайка, апынулася на такой пасадзе. Нашто ёй ты, сведка яе неадукаванасці, недалёкасці?

— І то праўда, — нібыта зразумела, пагадзілася з мамай Анюта і тут жа адмоўна хітанула галавой: — Не, Варка, яна мяне ведае, я ніколі язык не распускаю. Ніколі не абгавару і таго, хто мне падсабіў. Як можна! Якім бы дрэнным спецыялістам ні быў чалавек, але які падсабіў мне ў горы, — я ж бы толькі хваліла яго! О-о, ты не знаеш мяне, Варачка! Хіба б я, з гора вылезшы, палівала гразёю таго, хто падаў мне руку па маёй мальбе?! Не, Варка, не!

Мінула яшчэ колькі дзён. Анюта раз-пораз нагадвала пра сябе сваёй былой аднакурсніцы, тэлефанавала ёй, ездзіла, усё спадзявалася і спадзявалася на літасць. І толькі тады супакоілася, калі ёй перадалі, што і на месца стыльрэдактара ўзялі чалавека. Паплакала Анюта перад маёй мамай, але што зробіш? Абсунулася, яшчэ больш пабялела, пасівела. Вочы яе заўсёды былі змакрэлыя ад слёз:

— Каб ведала, што такое жыццё ўгатую свайму дзіцятку — век бы не нараджала! Але ж… — бясконца ўздыхала, бясконца плакала Анюта. Разам з ёю — і мая мама.

А неяк яна зайшла да нас у дзіўным стане. Твар яе быў пабіты чырвонымі плямамі, вочы глыбока запалі, учарнелі, здавалася, яшчэ больш. Зусім нясмела, нібыта да чужых, зайшла Анюта ў наш пакойчык, села перад намі:

— Што здарылася, Аня? Ты ўся як не ў сабе? — устрывожылася мама. — Вунь і твар пабіты чырвонымі плямамі. Гэта ж, мусіць, ад моцнага ўзрушэння?

— Ой, не кажы! Злачынца я, Варачка, каб ты знала, якая злачынца! — глуха адказала Анюта і горка заплакала.

Маці недаўменна паціснула плячыма:

— Не выдумляй, Аня. Калі што якое — кажы.

— Што казаць — няма ўжо маёй былой аднакурсніцы, няма галоўнага рэдактара Галіны Адамаўны. І забіла яе — я!..

І мама, і я знямелі. Жудасць запанавала ў нашым пакоі. Хацелася парасчыняць усе вокны, дзверы, невядома куды ляцець, куды бегчы. Хацелася ў лес, на поле, хоць на дзікае балота — абы далей ад гэтага гора, ад гэтага жаху.

Мы маўчалі. Дзікая, аглушальная цішыня, здаецца, забрала ўсе на зямлі крыкі-непаразуменні, што ўзнікаюць часам паміж людзьмі. Толькі білася спуджана рэха жаху. Яно, як дамоклаў меч, вісела над намі. І цяжка было дыхаць…

— Што ты зрабіла, Анюта? — нарэшце ледзь выціснула з сябе мая мама.

— Я… я… я… — пачала запінацца суседка. — Гэта ж тыдзень назад я сустрэла Галю на вуліцы. Яна ішла перада мной, я амаль што параўнялася з ёй. Яна мяне не бачыла. Затое я… О, я разгледзела яе ўсю, пышнацелую, паўнагрудую, убраную ў дарагое футра, я так на яе глядзела, так глядзела на яе, Варачка! Спачатку ў твар, пасля ў спіну! І так мне крыўдна стала за ўвесь свой зламаны лёс, за дачку, якая не даядае, за тое, што не магу дапрасіцца такіх вось Галяў, каб падсабілі ў няшчасці. Я прыгадала, як яна агаворвала мяне ў выдавецтве, як паклёпнічала, каб толькі мяне не ўзялі нідзе на працу. І знаеш, Варка, я ўсю сваю нянавісць, усё сваё гора скіравала ў гэты пагляд! Я забіла ім Галю, забіла! Яна й не ведае, што гэта я забіла яе сваімі вачыма! Каб ты знала, Анюта, як я, ашалелая, паслала ёй услед сваю думачку: «Каб твае дзеці хоць раз у жыцці так папілі-паелі, як мая дачка есць! Каб табе сам Гасподзь даў тое, што заслугоўваеш, каб саступіла з людской дарогі, бо там, дзе людзі ходзяць, — няма табе месца!»

О, з якой сілаю я кінула гэта ў спіну Галі, адною душою, нячутна, без крыку-ляманту! З якой нянавісцю! Усе мае нервы напяліся, усё маё цела, усё маё гора ўзнялося ўслед яе постаці! Яна ж, былая сяброўка, ведала і пра мае здольнасці, і пра маё няшчасце, а столькі гадоў вадзіла мяне за нос, пацяшалася з бяды! Як можна так? І крыўда вылезла ў праклён. Нават тады, калі прыйшла дахаты, рукі мае дрыжалі, усю мяне выварочвала. Дачушка выклікала «хуткую», мне зрабілі ўкол. Варка, я не знаю, як гэта са мной зрабілася, што зрабілася! Я ніколі-ніколі так людзям не жадала, ніколі нікога не праклінала, а тут… Як з ланцуга сарваліся ўсе мае нервы… І што ж ты думаеш, Варачка? Галіна памерла адразу ж, як прыйшла дахаты! Раптоўна. Нечакана для ўсіх. Інсульт. І ніколі ж ні на што не жалілася! Была, казалі, здаравейшай за лошу.

Як дачулася пра яе смерць, я спачатку не паверыла. Але гэта праўда. Праўда, Варачка! Яна памерла ў той жа вечар, калі я яе пакляла! Я вылічыла… Я, я, Варачка, яе сапраўдная забойца! І як цяпер жыць, і што мне рабіць? За такое зямныя суды не судзяць, а што там, перад Богам, скажу? Варачка, мілая Варка, ты даруй, я больш цябе не патрывожу, я ніколі больш не пераступлю твайго чыстага парога. Даруй, Варка, я — злачынца…

І яна пайшла ад нас тут жа, уся згорбленая, ссівелая, маўклівая. Як захліпнуўшыся ўсім жахам сказанага, абрынутага і на нас свайго гора. Мы яе не затрымлівалі…

Гісторыя гэта звычайная, жыццёвая, такое часта здараецца на свеце, побач з намі, і я не ведаю, чаму мне захацелася расказаць пра нашу суседку Анюту праўдзіва і без выдумкі, акурат якою яна і запомнілася з дзяцінства, але забыць яе гаротны лёс, яе марнае жыццё ніяк не атрымліваецца, хоць і сама я даўно ўжо стала дарослай.

# Першая кніга бы споведзь

**З цікавасцю бяру ў рукі першыя кнігі маладых паэтаў. Часам яны, на жаль, пакідаюць раўнадушным, часам расчароўваюць і нават раздражняюць. Асобныя западаюць у душу, прымушаюць раз-пораз гартаць, перачытваць і захапляцца ўдачамі маладога аўтара ці аўтаркі. Ці стануць яны паэтамі (паэткамі), пакажа час — няўмольны суддзя ўсяму зробленаму. Аўтарка, пра якую мне хочацца расказаць, мяркую, зможа пакінуць свой — ні на чый не падобны — след на літаратурнай сцяжыне Беларусі. Для гэтага ў яе нямала падстаў. Але спачатку знаёмцеся: Алена Басікірская. І яе «Споведзь» — зборнік, які нядаўна пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор».**

Кніга інтрыгуе ўжо з вокладкі. Не толькі мастацкім афармленнем, а, так бы мовіць, эпіграфам — чатырма радкамі, якія паэтка вынесла на першы суд чытача. Дапускаю, што гэта ідэя не самой аўтаркі, а выдавецтва. У цэлым, дастаткова цікавае (і ў нечым нечаканае) рашэнне.

*Цябе ніколі нельга падмануць,*
*Табой ніколі нельга наталіцца.*
*Дазволь цябе да сэрца прыхінуць,*
*Дазволь табе, паэзія, скарыцца…*

Някепска, можна нават сказаць — пераканаўча. Верш «Споведзь» (прыведзеныя радкі менавіта адтуль) адкрывае чыстую душу маладой дзяўчыны, якая піша пра адданасць сваёй любімай справе (калі можна назваць справай працэс вершаскладання — гэтай таемнай малітвы перад Богам і людзьмі). Споведзь паэтэсы нібы шчымлівы спеў душы, часам балюча-трывожны і нават выпакутаваны. «З табою буду ў шчасці і ў бядзе, / Я не пакіну твой квяцісты бераг… / Ў мой твар Пегас змаркочаны глядзеў, / І ён таксама мне, напэўна, верыў…». Калі акунаешся ў гэтую шчырасць і адкрытасць пачуцця, міжволі гатовы дараваць аўтарцы пэўную зацягнутасць верша, некаторыя рытмічныя збоі. І нават канцоўку, якая зусім неабавязковая ды аслабляе ў цэлым станоўчае ўражанне ад верша. Не дзіва, што кажуць: сціслась — сястра таленту. Гэтай сціслацсі, кампазіцыйнай прадуманасці часам бракуе маладой паэтэсе, і таму не сталіся яўнымі ўдачамі (а маглі стацца!) такія вершы, як «Песня мая душэўная», «Наша песня», «Нямнога на зямлі паэтаў…». Хоць асобныя строфы сапраўды ўражваюць меладычнасцю, у нечым блізкай да народнай песні:

*Песню маю душэўную*
*Так засяваць мне хочацца.*
*Раніца каралеўнаю*
*Важна ад сонца моршчыцца.*

*Я бяру ў рукі ціхенька*
*Томік знаёмы з вершамі.*
*Спелым паглядам вішанька*
*Хоча ўчытацца першаю…*

Паэтка піша пераважна ў традыцыйным стылі, не баіцца ў нечым паўтарыцца за Купалам і Коласам, Багдановічам і Цёткай. Не ведаю, як сённяшнім маладым крытыкам, а мне спадабаліся, можа, не такія арыгінальныя па форме і вобразна-выяўленчых сродках, але празрыстыя ў сваёй шчырасці вершы «Царыца-ноч», «Мая Радзіма», «Полацку»:

*Царыца-ноч у чорным аксаміце*
*Лучыну паліць пад маім акном.*
*І келіх сну я праглыну нагбом,*
*А вы мне, зоркі, казку раскажыце.*

> **«Прыхільнікі «нетрадыцыйнай» паэзіі таксама змогуць знайсці ў зборніку штосьці блізкае і цікавае для сябе. Гэта і верлібры, і белыя вершы, і танка, і хоку… Ёсць вершы-каламбуры для дзяцей, гумарыстычныя творы, нават пераклад вядомага верша Аляксандра Качаткова «Баллада о прокуренном вагоне, или С любимыми не расставайтесь!» (зазначу: пераклад на ўзроўні).**




*Гляджу ў акно: там цемра ахінае*
*Прастору дня раскінутым крылом.*
*Наўкол усё зачаравана сном,*
*Як квецenню чаромхавай у маі.*

*Царыца-ноч ступае чынным крокам*
*І адганяе мітуслівы дзень.*
*На ложак мой кладзецца сонны цень,*
*А ў думках я ад сну яшчэ далёка.*

Інтымная лірыка ў кнізе Алены Басікірскай прадстаўлена не так шырока, як звычай у першых кніжках маладых паэтэс. Магчыма, гэта сведчыць пра тое, што аўтарка не спяшаецца выносіць асабістае на суд чытачоў. Найбольш дасканалыя з вершаў пра каханне — «Мы не цалаваліся ніколі», «Ты пакахаў мяне моўчкі» і «Не пашкадую я і не заплачу». Праўда, апошні патрабуе эпіграфа з Сяргея Ясеніна, паколькі ў ім узнаўляецца ў беларускім варыянце яго бессмяротнае «як з белых яблынь дым».

Прыхільнікі «нетрадыцыйнай» паэзіі таксама змогуць знайсці ў зборніку штосьці блізкае і цікавае для сябе. Гэта і верлібры, і белыя вершы, і танка, і хоку… Ёсць вершы-каламбуры для дзяцей, гумарыстычныя творы, нават пераклад вядомага верша Аляксандра Качаткова «Баллада о прокуренном вагоне, или С любимыми не расставайтесь!» (зазначу: пераклад на ўзроўні). А заканчваюць кніжку празаічныя творы — прытчы, апавяданні, назіранні, абразкі. Яны сведчаць пра разнастайнасць таленту маладой аўтаркі, якая імкнецца паспрабаваць свае сілы ў розных жанрах, і ў многім яе імкненне апраўдана.

Спынюся на некаторых сакавітых эпітэтах, большая частка якіх вызначаецца метафарычнасцю і папаўняе арсенал аказіянальнай лексікі: празрыста-плыткая рэчка, няўрымслівa-напеўны верш, заплаканае слова, крутабокае і касавокае гора, колкая трывога, зрэбная лагода, самлелы пагляд, зіхатлівая воля…

«А дзе ж хібы?» — спытае прыдзірлівы чытач. І будзе мець рацыю. Хібы пераважна версіфікацыйнага характару: часам прыблізныя рыфмы: *схавалі — мая, седаком — кранём, зямля — мая, алтара — змагла, нутро — сышло*; часам няроўны рытм. Пра зацягнутасць некаторых вершаў я гаварыў вышэй. Ёсць і пэўныя сэнсавыя неахайнасці: *Я рыфмую слоўцы-вершы* (лепш было б слоўцы — у вершы, бо рыфмаваць вершы, бадай, перабор); *Птушкі дамоў вяртаюцца з-пад чужаземных выраяў* (вяртаюцца ўсё ж з выраю); *Выйду на золку на ганак — Вятрыска аблашчыць мяне* (тут не толькі па рытме, але і па сэнсе павінен быць назоўнік *вецярок*, бо *вятрыска* (моцны вецер) не можа аблашчыць); *Я вершам, нібы світкай, захінулася / І п'ю нагбом са словам гладышы* (п'юць з гладыша (з гладышоў), а не гладышы); *Пілі гарачую каву. Веяў дым цыгарэт* (дым не можа веяць — тут да месца было б: *віўся…*).

Што да моўных хібаў, то ў зборніку іх не так і шмат. Гэта лагічна: Алена — студэнтка-выдатніца факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка. Ужо некалькі гадоў яна з'яўляецца членам літаратурнай суполкі «Полацкая веtвь», мае публікацыі ў калектыўных зборніках, а таксама часопісах «Маладосць» і «Вожык», газеце «Літаратура і мастацтва». Спадзяюся, няўрымслівасць, самаахвярнасць у імя паэзіі дапамогуць аўтарцы ў наступных кніжках яшчэ больш ярка і непаўторна заявіць пра сябе. Ды перад прычасцем першая — «Споведзь».

**Мікола ШАБОВІЧ**

# «Як не спляміць недаробкамі аркуш...»

**Пачнём з таго, што аўтар сам прынёс у рэдакцыю сваю кнігу, жадаючы атрымаць ацэнку. Гутарка пойдзе пра зборнік вершаў «Белая варона» Сяргея Прыёмкі.**

Ёсць негалосная правіла — не атаясамліваць лірычнага героя з аўтарам, аднак у нашым выпадку гэта немагчыма: ува ўсіх тэкстах аўтар калі не прамаўляе ад першай асобы, дык відавочна выказвае ўласную пазіцыю, прычым даволі катэгарычна, а часам нават агрэсіўна. Да таго ж белай варонай мы мусім лічыць яго самога. Так, першая частка кнігі прысвечана нацыянальнаму пытанню, праблемам мовы, і з пункту гледжання С. Прыёмкі справы ў нас надзвычай кепскія. Белая варона — кожны, хто размаўляе па-беларуску. Даволі спрэчны довад, мушу сказаць, бо не такая гэта і рэдкая з'ява; патрабаваць жа ад вясковых жыхароў чыстай літаратурнай мовы неразумна: яны размаўлялі і будуць размаўляць па-свойму, на дыялекце. На гэтым фоне выклікаюць недаўменне рускамоўныя тэксты, якія аўтар уключыў у зборнік.

Увогуле, кніга пазбаўленая кампазіцыйнай цэласнасці. Паглядзіце на раздзелы: «Вершы» (тэматыка розная — пейзажная і любоўная лірыка, творы публіцыстычнай скіраванасці, гістарычная тэматыка), «Гумар», «Байкі», «Рыфмаваныя цытаты» (здаецца, у нас з'явіўся новы жанр), «Засяваем!», «Пераспевы», «Музычны глобус» (ці не лепей было б пакінуць іх для асобнага выдання) і «Цыкл» (так, проста «Цыкл»: ні назвы, ні тлумачэння).

Нярэдка С. Прыёмка дзеля рыфмы ўжывае словы, якія не ўпісваюцца ў эстэтычную, сімвалічную, назавіце як хочаце — карціну верша. У такім разе ўзнікае пытанне: чаму б «белай вароне» не пісаць белых вершаў? Пытанне пра рыфму, якая вымагае такіх пакут, адразу б знялося.

Акрамя таго, тэксты ўтрымліваюць выразы, якія выглядаюць неадназначна («два моры ссалі нашы рэкі», тэкст «Гетман Астрожскі»), камічна (пчол ён называе «працаўніцамі па зборы мёду»; каханай жанчыне піша: «Хтосьці сказаў, што гадуеш дачушку / І пераехала ты у Алушту»), ёсць моманты папросту пошлыя, іх цытаваць не будзем. Увогуле, такіх заўваг безліч, і ўзнікаюць яны пры прачытанні кожнага тэксту.

Пры гэтым ёсць і неблагія радкі, напрыклад, «Круг — гэта шлях хоць куды са звяртаннем, / Дзень, што пазначаны двойчы змяркannем» («Круг»). Удалай атрымалася стылізацыя пад народную песню-жальбу (***Запрагу коніка), да ўдач можна прылічыць байку «Асёл і мужык», калі не звяртаць увагі на тое, што Асёл умее рамантаваць калёсы.

Такое суседства няўдалага і прыгожага сведчыць пра дзве рэчы: аўтар яшчэ не ўсвядоміў, што такое паэзія, і, як следства, у яго склалася неадэкватнае ўяўленне пра хараство, якім ён і кіруецца; таксама пра тое, што ён мала працуе над тэкстам і недастаткова самакрытычны.

Наўрад ці С. Прыёмка мае патрэбу ў нейкай парадзе, асабліва калі судзіць па катэгарычным настроі вершаў і па метафары «цэнзуры шэршні». І ўсё ж, звяртаючыся проста да аўтара: Сяргей Васільевіч, паспрабуйце вашыя сілы ў публіцыстыцы, балазе, імпэту і смеласці вам не займаць (калі вы, канечне, ужо гэтым не займаецеся). Відавочна, вам ёсць што сказаць і вы хочаце гаварыць, але абралі няўдалую форму, бо паэзія — не месца для палітычных дэбатаў і прамоў. Поспехаў.




*Прыёмка, С. Белая варона: вершы / Сяргей Прыёмка. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 92 с.*

**Настасся ГРЫШЧУК**

# Між вершаскладаннем і паэзіяй

**Адказы Віктара Гардзея на пытанні кароткай анкеты — працяг размовы пра сучасную беларускую літаратуру. Праз рукі Віктара Канстанцінавіча праходзяць усе вершы і апавяданні, дасланыя ці прынесеныя ў рэдакцыю. Таму і аўтарам, і чытачам, напэўна, будзе цікава пазнаёміцца з поглядамі загадчыка аддзела, яго стаўленнем да працы, да тэкстаў, якія даводзіцца рыхтаваць да публікацыі альбо пакідаць у архіве. Пытанні тычацца паэзіі — альбо, у большасці выпадкаў, — на жаль, проста вершаскладання…**


Фота Кастуся Дробава

**1. Як вы ацэньваеце сярэдні ўзровень сучаснай беларускай паэзіі?**

Прыемна, што плён паэтычных намаганняў наша сучасная крытыка пастаянна трымае ў полі зроку, але якой мерай вызначыць рэальны кошт сённяшняй беларускай паэзіі? Ці ёсць у яе ўвогуле нейкі схематычны сярэдні ўзровень? Сапраўдная паэзія як від мастацтва не мае залатой сярэдзіны, бо яна без пачатку і канца: паэзія альбо ёсць, альбо яе няма. Безумоўна, у нашым выпадку было б лепш гаварыць пра сярэдні ўзровень вершаскладання або вершаванай творчасці, якою, як сведчаць факты, займаецца добрая частка працаздольнага насельніцтва Беларусі, не беручы пад увагу пенсіянераў і дзяцей. Згадаем неўтаймоўнага В. Бялінскага, які і сам умеў няблага рыфмаваць. У сваіх працах ён казаў, што паэзія ўяўляе сабой сузіранне ісціны ў аздабленні і з дапамогай мастацкіх вобразаў, гарманічнае адзінства слова і пачуцця — хаця для кожнага асобна ўзятага твора важнае значэнне мае душэўная патрэба аўтара. Патрэба пісаць — ці то гусіным, ці то электронным пяром — не па прафесійным абавязку, а без прымусу, калі папросіць душа.

Здаецца, што гэты надзвычай жывучы ў масах літаратурны занятак — вершаскладанне — з кожным годам у Беларусі набывае ўсё больш прыхільнікаў. Звычайна напрыканцы сваёй працоўнай біяграфіі кожная крыху адораная асоба кідаецца пісаць вершы. Можа, таму, што напачатку «было Слова»? І ні бяды аўтару, што ў яго творах, разасланых па рэдакцыях часопісаў і газет, зусім няма прафесіяналізму — таго прафесіяналізму, пра які следам за В. Бялінскім пераканаўча гаворыць ці не самая аўтарытэтная ў свеце «Энцыклапедыя Брытаніка»: «Абсалютная паэзія ёсць канкрэтнае і мастацкае выяўленне чалавечага духу на эмацыянальнай і рытмічнай аснове». Бадай, лепш пра паэзію і не скажаш!

Такім чынам, сёння ў газеты і часопісы дасылае свае творы безліч людзей, далёкіх ад прафесіі літаратара. Прычым адразу пачынаюцца тэлефонныя званкі: калі будзеце друкаваць? Здаецца, такія аўтары не маюць сціпласці і зусім не арыентуюцца ў вялікай спадчыне лепшых паэтаў свету. Ці варта паўтараць тое, што даўно было сказана іншымі? Аляксей Пысін у прадмове да пасмяротнага зборніка свайго сябра Анатоля Сербантовіча слушна зазначыў, што паэтычную іскру іншы раз здольны выкрасаць і пенсіянер, але радасці з гэтага, як правіла, мала.

Аднак будзем спадзявацца: на сонцы не заплямяцца залатыя зярняты паэзіі, а ўсё лішняе і наноснае хутка перамелецца!

**“Здаецца, што гэты надзвычай жывучы ў масах літаратурны занятак — вершаскладанне — з кожным годам у Беларусі набывае ўсё больш прыхільнікаў. Звычайна напрыканцы сваёй працоўнай біяграфіі кожная крыху адораная асоба кідаецца пісаць вершы. І ні бяды аўтару, што ў яго творах, разасланых па рэдакцыях часопісаў і газет, зусім няма прафесіяналізму!**

**2. Якія галоўныя недахопы твораў, адрасаваных у ваш аддзел?**

Вершаў у рэдакцыю кожны дзень прыходзіць шмат — з розных гарадоў і вёсак краіны. Паэтычныя канверты часам дасылаюць з суседніх Расіі і Украіны, але ў друк трапляе вельмі малая крыха таго, што рэгіструецца. Цэлая паласа на вершы — гэта не скупа, і ўся справа ў нізкай якасці саміх твораў. Аўтары, як змовіўшыся, ігнаруюць нават абавязковыя правілы вершаскладання (ці наогул не ведаюць іх!), практычна не ўжываюць мастацкіх сродкаў мовы — горш за тое: нават не спрабуюць пагартаць які-небудзь паэтычны слоўнік, каб, дасылаючы свае недасканалыя вершы ў «ЛіМ», дарэмна не пакутаваць у чаканні будучай славы і ўсеагульнага прызнання. Нягледзячы на мноства тэорый вершатворчасці, сапраўднай паэзіі мала. Няма вершаў, якія хвалююць і бунтуюць кроў. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што даволі слушныя думкі, здабытыя метадам сузірання, праменяцца ў асобных аўтараў, але начыста адсутнічае сама паэзія.

Нашы карэспандэнты, ні ў крыўду ім кажучы, не адчуваюць гармоніі слова, гуку, пачуцця. Прыкра чытаць вершаваныя радкі, пазбаўленыя навізны і свежасці, з бачнымі парушэннямі рытму, з няўменнем правільна спалучыць у адной страфе жаночую і мужчынскую рыфмы. Як і дзесяцігоддзі таму, паэты закідваюць вершамі пра «басаногае дзяцінства», бацькоўскую аселіцу, «маленькую рэчку, што бруіцца за вёскай», пра ніцыя вербы на лясным беразе. Ёсць і іншая крайнасць — заблытаныя вершы маладых аўтараў. Вельмі «мадэрновыя» паэты знарок пішуць з фокусамі, агрэхамі і крыўляннем: маўляў, паглядзіце, які я арыгінальны і смелы! Дзіўна, што іншы раз недапрацаваныя як след спробы пяра выдаюцца за найвышэйшае дасягненне паэзіі. Можна ўдосталь начытацца і ляманту пра няспраўджанае каханне: «я цябе кахаю і плачу па табе».

Адна ўласная заўвага: мне здаецца, што не самую лепшую паслугу загадчыкам аддзелаў паэзіі і прозы за дваццаць апошніх гадоў зрабілі ўсюдыісныя камп'ютары. Як той казаў, цяпер усё пад рукой і вельмі дарэчы: свая вёрстка, свой набор, свая друкарня, свая пошта. Не трэба вялікіх затрат, каб дасылаць гатовы тэкст у газету, і гэтая незвычайная лёгкасць, з якой робіцца мастацкія творы, адчувальна ўплывае на іх якасць. Адна аўтарка з Палесся шчыра прызналася: «Пакуль не набыла дамашні камп'ютар, не думала пісаць ні прозу, ні вершы. Купіла — і зараз я паэтка!» Магія, якая забірае ў палон!

Творы, дасланыя па электроннай пошце, не губляюцца па дарозе, таму вершы зусім не маладых пачаткоўцаў ідуць у газету суцэльнай плынню. Вось і з'явілася ў многіх выданнях змушаная аб'яўка: «Рукапісы не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца». Трэба пра цяжкасці рэдакцыі ведаць і аўтарам! Зрэшты, сёння пазначана і тое, што «рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе».

**3. Якім прынцыпам вы кіруецеся пры выбары вершаў для публікацыі?**

Галоўны прынцып аддзела літаратуры — ахапіць публікацыямі ў «ЛіМе» ўсе рэгіёны Беларусі. Прынамсі, гэта справядліва. Вядома, лепшыя вершы нашых чытачоў трапляюць у друк, хоць у рэдакцыі заўсёды завозна, як у тым старадаўнім ветраку, калі сяляне цугам прывозілі збожжа на памол. Пры гэтым можна было наслухацца розных неверагодных гісторый і цікавых размоў. Так і ў нашым аддзеле. Нядаўна, да прыкладу, прыходзіла дужа ўзрушаная аўтарка і прасіла даць параду: маўляў, выйшла на пенсію і, на наш погляд, ці не пачаць пісаць вершы? «Гэта гледзячы па вашых магчымасцях, — кажу ёй. — Можа ўсё-такі прасцей купіць рабую курыцу, дык хоць калі-нікалі знясе свежае яйка?» «Не, курыца ў мяне ёсць, і не адна. Хачу вершы пісаць!» Праз які дзень ці два — зноў падобны званок: «З Божай ласкі напісаліся вершы, і я хачу іх дзе-небудзь надрукаваць. Паведаміце тэрмінова: «Нёман» — гэта часопіс ці газета? І на якой мове ён выходзіць?» Што тут параіш? Нібыта аддзел паэзіі і прозы — гэта даведачны цэнтр!

# Вянок вянкоў

Беларускі лірык Змітрок Марозаў выдаў амаль трыццаць зборнікаў твораў, шэсць з іх — для дзяцей. Напісаў ён і некалькі соцень санетаў, дзесяць вянкоў санетаў, а яшчэ вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». Гэты ўнікальны твор заняў першае месца ў дадзеным жанры, пра што сказана ў дзясятым томе васямнаццацітомнай «Беларускай энцыклапедыі» (2000). Некалькі зборнікаў паэта адзначана прэміямі ў галіне літаратуры, шмат твораў уключана ў школьныя праграмы і падручнікі, дапаможнікі для студэнтаў.

Змітрок Марозаў родам з Крупскага раёна, што на Міншчыне. Бацька працаваў цесляром у калгасе, маці настаўнічала ў пасялковай сярэдняй школе. Змітрок скончыў дзесяцігодку і стаў вучыцца на агранома ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Па размеркаванні ў ліпені 1975-га трапіў у Магілёўскую вобласць, дзе затрымаўся больш як дзесяць гадоў. Тут і нарадзіўся як паэт. Маладому пачаткоўцу дапамог кіраўнік літаб'яднання пры Быхаўскай раёнцы Мікола Леўчанка. Паэт Аляксей Пысін параіў пісаць на матчынай мове, дапамагаў заўвагамі. Удзячны вучань прысвяціў настаўнікам шмат прачулых вершаў. З магілёўскіх напрацовак малады паэт выдае два зборнікі: «Пад небам буслiным» (1982) у выдавецтве «Мастацкая літаратура», «Агонь і жыта» (1983) у Маскве ў «Маладой гвардыі» ў перакладзе на рускую мову. У 1988 г. пабачылі свет зборнікі вершаў «Хлеб і памяць» і «Хлебны верасень». У 1991 г. З. Марозаў становіцца сябрам Саюза пісьменнікаў.

У творах З. Марозава чытача закранае глыбокае веданне побыту вёскі, любоў да мовы, грамадзянская пазіцыя. Па-сялянску ўвішны і нястомны, ён ідзе ад жыцця і піша пра яго праўдзіва. Сакрэт яго творчасці і ў яднанні з прыродай, спагадзе да ўсяго жывога на зямлі:

*Каля разлапістай сасны*
*Пасля будзённых спраў*
*Збіраю я грыбныя сны,*
*Паданні мудрых траў.*
*Чабору цёплае святло,*
*Сунічны пах вятроў.*
*І ўсё, што згасла, адцвіло,*
*Хвалюе сэрца зноў.*

Марозаў — майстар лірычных вершаў-роздумаў невялікага памеру. У яго багата слоўных фарбаў з вясёлкавымі колерамі, карыстаецца імі часта, каб «Святлом душы намаляваць / Жыцця бярозавую восень». Шмат у паэта вершаў-акварэляў. Інтымная лірыка вызначаецца асаблівай шчырасцю і чысцінёй пачуццяў.

*Жанчына спіць. На снезе прасціны*
*Спякотнае раскінулася цела.*
*Яно жывою ліраю звінела,*
*Калі мы заставаліся адны.*

Паэт валодае многімі формамі і відамі верша, але найбольшай вышыні дасягнуў у напісанні санетаў, стаў першапраходцам у стварэнні вянка вянкоў санетаў — складанай і працаёмкай архітэктанічнай структуры, якая ўключае пятнаццаць вянкоў, а ў іх ажно 225 санетаў! Пятнаццаты, заключны вянок, — магістрал — складаецца з першых радкоў па чарзе кожнага з чатырнаццаці вянкоў.

«Апакаліпсіс душы» — першы твор такога кшталту ў літаратуры краін былога Савецкага Саюза. Раней санеты мелі пераважна лірычны змест, беларускі паэт надаў ім сацыяльна-палітычнае гучанне.

Кніга двойчы выдавалася на беларускай мове (1991, 1997 гг.). На рускай мове «Апакаліпсіс душы» пабачыў свет у 2013-м — у перакладзе Андрэя Цяўлоўскага. Пачын Марозава доўжаць іншыя творцы. З канца 90-х гадоў XX стагоддзя ў Беларусі надрукавана восем вянкоў вянкоў санетаў, з іх пяць — Соф'і Шах. Ці будзе працяг?

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

# Багдановіч: online

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча з першых дзён актыўна распрацоўваў розныя кірункі дзейнасці, у тым ліку збор, захаванне асабістай і творчай спадчыны пісьменніка, вывучэнне, прэзентацыю і папулярызацыю каштоўных музейных прадметаў. У розны час той альбо іншы кірунак выходзіў на першы план. Навукова-пошукавая, даследчая работа ніколі не займала асноўнага месца ў гісторыі музея, але заўсёды была ў ёй надзейным падмуркам.**



*Максім Багдановіч, 1909 год (фотаздымак з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча).*

Складанасці навукова-пошукавай дзейнасці ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча абумоўліваліся, у першую чаргу, асаблівасцямі асабістай і творчай біяграфіі паэта. Яго лёс звязаны з рознымі гарадамі і мясцінамі: паэт нарадзіўся ў Мінску, жыў у Гродне, Ніжнім Ноўгарадзе, Яраслаўлі, наведваў Вільню, Ракуцёўшчыну, ездзіў адпачываць у Крым.

У 1980—1990-я гг. у музейных супрацоўнікаў было больш магчымасцей весці пошук. Цяпер займацца пошукавай працай, з аднаго боку, стала больш складана, бо зменшыліся магчымасці камандзіравання навуковых супрацоўнікаў у замежныя краіны. З другога боку, дапамагае неабмежаваны свет інтэрнэту.

Некаторыя факты ўдалося адшукаць на сайце Дзяржаўнага архіва Яраслаўскай вобласці. Тут прадстаўлена дастаткова падрабязная інфармацыя пра ўстанову і яе фонды, выставачную, культурна-адукацыйную, навукова-даследчую дзейнасць супрацоўнікаў. Архіў захоўвае каштоўныя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй Яраслаўля і наогул Расіі.

Акрамя таго, у архіве захоўваюцца падшыўкі газет Яраслаўля XIX—XX стст., некаторыя з якіх прадстаўлены на сайце ў раздзеле «Электронная бібліятэка». Сярод алічбаваных выданняў — «Ярославские губернские ведомости», «Ярославские епархиальные ведомости», «Голос», «Северная молва», «Северные вести» і інш. У газеце «Голос», якую выдавалі К. Някрасаў і М. Дружынін у Яраслаўлі ў 1909—1917 гг., апублікаваны шматлікія творы М. Багдановіча, у тым ліку апавяданні, вершы, артыкулы, рэцэнзіі і г. д. Пісьменнік друкаваўся пад уласным прозвішчам, псеўданімамі і крыптанімамі.

Самая важная знаходка выяўлена пры праглядзе даступных на сайце алічбаваных газет «Голос» за 1909 і 1911 гады. Гэта празаічны твор «Международный чемпионат и ярославцы», які дакладна належыць пяру Максіма Багдановіча. Ён апублікаваны ў газеце «Голос» (№ 189 ад 17 (30) кастрычніка 1909 года) у рубрыцы «Маленький фельетон» — даволі распаўсюджанай у расійскай прэсе

> **Шмат каштоўнага пра яраслаўскі перыяд жыцця М. Багдановіча і яго акружэнне дае газета «Ярославские губернские ведомости» (таксама даступна на сайце Дзяржаўнага архіва Яраслаўскай вобласці). Прадстаўлены асобныя алічбаваныя падшыўкі газеты з 1831 па 1909 год.**

пачатку XX стагоддзя. У гэтай рубрыцы змяшчалі свае творы вядомыя пісьменнікі, у прыватнасці А. Аверчанка, Тэфі і інш. На сённяшні момант вядома сем фельетонаў М. Багдановіча, апублікаваных у газеце «Голос». Два з іх падпісаны псеўданімам «Эхо» — «Калейдоскоп жизни» (1913) і «После концерта Яна Кубелика» (1909), якія засведчыў плённае супрацоўніцтва Максіма Багдановіча з гэтай газетай. Твор «Международный чемпионат и ярославцы» таксама падпісаны псеўданімам «Эхо», стылістычна блізкі да фельетона «После концерта Яна Кубелика» і апублікаваны ў адзін час. Гэта дае права выказаць версію, што названы фельетон напісаў М. Багдановіч і, такім чынам, папоўніць творчую скарбонку пісьменніка. Апошнюю кропку ў выяўленні аўтарства паставяць тэкстолагі. Нам застаецца шкадаваць, што на сайце архіва прадстаўлены падшыўкі толькі за гэтыя гады, бо М. Багдановіч найбольш актыўна супрацоўнічаў з газетай у 1913—1916 гг. Магчыма, калі-небудзь у інтэрнэце будуць прадстаўлены алічбаваныя выданні гэтага перыяду.

Газеты пашыраюць веды пра акружэнне Максіма Багдановіча. Нямала звестак пра асоб, якія ведалі паэта: супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Голос» Мікалай Дружынін, Мікалай Агурцоў, Аляксандр Цітоў, Сяргей Каныгін. Узгадваюцца і выкладчыкі Яраслаўскай класічнай мужской гімназіі, Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя, дзе вучыўся М. Багдановіч ды іншыя.

Цікавая інфармацыя і пра саму гімназію: навучанне, уступныя і выпускныя экзамены, культурна-адукацыйныя мерапрыемствы (канцэрты, лекцыі, танцавальныя вечары).

Да гэтага часу асноўнай крыніцай звестак пра навучанне М. Багдановіча з'яўляліся ўспаміны бацькі паэта, Адама Ягоравіча. Ён падрабязна распавёў пра паступленне ў Ніжагародскую мужчынскую гімназію, успомніў імёны некаторых выкладчыкаў, прыгадаў складаны перавод сыноў у Яраслаўль. Пра навучанне ў Яраслаўскай гімназіі А. Багдановіч піша значна менш, узгадвае некалькіх сяброў-гімназістаў і выкладчыка Уладзіміра Белавусава. У 1911 годзе Максім Багдановіч скончыў Яраслаўскую класічную мужскую гімназію і атрымаў атэстат сталасці.




*«Ярославские губернские ведомости», с. 1, № 26 ад 07.04.1909 года (Дзяржаўны архіў Яраслаўскай вобласці).*

У газеце «Голос» (№ 124, 4(17).06.1911 г.) знаходзім наступную інфармацыю: «Экзамены в 8-м классе губернской мужской гимназии закончились. Определением педагогического совета удостоены наград следующие ученики: золотой медалью — Васильев Евг., Постников Н. и Соболев С.; серебряной медалью — Барщевский Н., Буяков Н., Годнев Т., Князев Н., Ламтев Арс., Лачинов Н., Чапурский Н., Чухин Н., Щербаков Бор. и Щербаков Серг.». Такім чынам, становяцца вядомымі імёны яшчэ дванаццаці гімназістаў, аднакласнікаў М. Багдановіча. Можна пачынаць пошукі іх нашчадкаў. Імя «Годнева Т.», узнагароджанага срэбным медалём, і раней было вядома супрацоўнікам музея. Годнеў Ціхан Мікалаевіч — беларускі фізіёлаг раслін, біяхімік, акадэмік НАН Беларусі (1940), яшчэ ў 1970-я гг. напісаў успаміны, праўда досыць сціслыя, пра сяброўства з Максімам і Львом Багдановічамі і навучанне ў гімназіі. Імёны астатніх аднакласнікаў вядомага паэта на сёння не выяўлены. Затое ў газеце «Голос» даволі шмат інфармацыі пра выкладчыкаў гімназіі, сярод якіх дырэктар М. Вярыгін, настаўнікі П. Мізінаў, А. Лебедзеў, М. Фівейскі ды інш.

Шмат каштоўнага пра яраслаўскі перыяд жыцця М. Багдановіча і яго акружэнне дае газета «Ярославские губернские ведомости» (таксама даступна на сайце Дзяржаўнага архіва Яраслаўскай вобласці). Прадстаўлены асобныя алічбаваныя падшыўкі газеты з 1831 па 1909 год. У ёй публікаваліся афіцыйныя паведамленні, інфармацыя аб кадравых перастаноўках, узнагароджванні, асвятляліся найбольш важныя падзеі гарадскога жыцця.

Самымі цікавымі для багдановічазнаўцаў з'яўляюцца газеты за 1908—1909 гг., калі сям'я Багдановічаў жыла ў Яраслаўлі, бацька працаваў у мясцовым аддзяленні сялянскага пазямельнага банка, а Максім і Леў вучыліся ў гімназіі. Імя самога М. Багдановіча ў газетах не ўзгадваецца. А вось звесткі пра яго бацьку, Адама Ягоравіча, знаходзім у № 26 ад 07.04.1909 г., у рубрыцы «Частка афіцыйная. Аддзел другі, мясцовы»: «Высочайшим приказом по гражданскому ведомству 14 марта 1909 года № 16, по ведомству Министерства финансов, по крестьянскому поземельному банку и его отделениям производится за выслугу лет, со старшинством из титулярных советников в коллежские асессоры непременный член Ярославского отделения Богданович с 8-го октября 1908 года». Успаміны пра сына А. Я. Багдановіч пісаў ужо ў савецкія часы. Ён вельмі сціпла апісвае факты сваёй біяграфіі, у пэўным ракурсе падае інфармацыю аб працы ў сялянскім пазямельным банку, не ўзгадвае кар'match росту і дзяржаўных узнагарод, атрыманых да 1917 года.

> **Самая важная знаходка выяўлена пры праглядзе даступных на сайце алічбаваных газет «Голос» за 1909 і 1911 гады. Гэта празаічны твор «Международный чемпионат и ярославцы», які дакладна належыць пяру Максіма Багдановіча.**

У газетных матэрыялах можна грунтоўна пазнаёміцца і з гісторыяй гімназіі, а таксама са спісам асоб, якія скончылі старэйшую навучальную ўстанову Яраслаўля з 1882 па 1909 гг. На жаль, на сайце архіва няма газет за наступныя гады, таму невядома, ці была працягнута практыка пералічэння выпускнікоў, невядомы і поўны спіс аднакласнікаў М. Багдановіча.

Хочацца спадзявацца на тое, што неўзабаве ў сетцы інтэрнэт будуць даступны іншыя карысныя матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю М. Багдановіча, якія захоўваюцца ў музеях, архівах, бібліятэках Беларусі і замежжа. Гэта дапаможа пашырыць веды пра пісьменніка, яго дзіцячыя і юнацкія гады, адкрыць невядомыя старонкі біяграфіі.

**Ірына МЫШКАВЕЦ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка»**

*Паралелі*

# Як правільна прадаць?

**Гэтае пытанне надзвычай актуальнае для выдаўцоў Германіі. Тут штогод выходзіць з друку каля 70 тысяч новых кніг, працуе больш як тысяча выдавецтваў і 4 тысячы кнігарняў ды іншых кропак, дзе можна набыць кнігі. У такіх умовах поспех залежыць не толькі ад прадукту, але і ад прадаўца. Менавіта ён мусіць ведаць, як прадставіць выданне на рынку, каб яно карысталася попытам. Некаторымі сакрэтамі паспяховага вядзення спраў падзяліўся з беларускімі калегамі спадар Ціна Улеман, загадчык аддзела продажаў і маркетынгу мюнхенскага выдавецтва «Піпер Ферлаг». Сустрэча прайшла ў межах семінара «Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы», арганізаванага Інстытутам імя Гётэ ў Мінску.**



*Фота Кая Мюлека з сайта boersenblatt.net*

## КНІГ МНОГА (НЕ)БЫВАЕ

— Рынак ужо перапоўнены кнігамі, таму перад пачаткам рэалізацыі новага праекта варта задаць сабе пытанні: чаму трэба выдаваць менавіта гэтую, а не іншую? Як яе прадставіць? Гучыць дзіўна, але першая перашкода на шляху выдаўца — гандаль. Як бы ні хацелася, каб кнігі хутчэй трапілі да чытача, важна прадставіць іх у кнігарнях. Існуе негалоснае пагадненне паміж выдаўцом і гандляром, згодна з якім першы не мае права прадаваць кнігі напрамую. Вось такая своеасаблівая гарантыя прасторы для кніжнага гандлю. Па заканадаўстве мы не маем права прадаваць і электронныя кнігі: гэтым займаецца наш партнёр Amazon. Таму ў інтэрнэце мы можам толькі інфармаваць чытача пра навінкі.

Нашы гандлёвыя прадстаўнікі два разы на год наведваюць кнігарні-партнёры, дзе прадстаўляюць новыя выданні і праграму выдавецтва ў цэлым. Трымаць гандлёвых прадстаўнікоў у штаце становіцца нявыгадна і занадта затратна. Але адмовіцца ад іх паслуг мы не можам, бо іх праца дае магчымасць кожнаму магазіну мець нашы кнігі. Яны забяспечваюць і папярэднія заказы на выданні, якія толькі рыхтуюцца да выхаду.

Ёсць у нас і менеджары па працы з кліентамі: яны забяспечваюць каля 75 працэнтаў гадавога звароту. Сёння кнігарні эканомяць, таму супрацоўнікі выдавецтва выконваюць новыя функцыі: аналізуюць, ці добра прадстаўлены кнігі з каталога на паліцах магазіна і ў адпаведнасці з гэтым фарміруюць новыя прапановы. У залежнасці ад вынікаў супрацоўніцтва менеджар па працы з кліентамі выбудоўвае доўгачасовыя стратэгічныя адносіны.

У нашым выдавецтве працуе сістэма хуткага апавяшчэння: у любы момант супрацоўнік можа даведацца, колькі кніг прададзена і колькі іх на складзе. Прадавец сам кантралюе працэс заказу, а прадстаўнік выдавецтва распавядае пра кнігі, дае поўную інфармацыю пра выданні і новыя звесткі пра аўтараў. Да прыкладу, калі не стала Нэльсана Мандэлы, яго кнігі набылі надзвычайную папулярнасць. Аднак прадаўцы бываюць розныя. Адны сочаць за навінамі ў свеце, каб фарміраваць адпаведны заказ на кнігі, другія — не.

## КРЫТЭРЫІ ПОСПЕХУ

— Калі мы прадалі за год менш як 500 асобнікаў кнігі, то задумваемся, ці варта такі праект трымаць на складзе. Увогуле, у выдавецтве выходзяць кнігі розных катэгорый: «для прыбытку» ці «для прэстыжу» (звычайна гэта выданні аўтараў, якія працуюць толькі з адным выдавецтвам). Да прыкладу, выдаваць кнігі Ханны Арэнд — пытанне прэстыжу. Але цяпер гэта яшчэ і прыбытак. Калі раней мы маглі прадаць толькі тры тысячы асобнікаў яе прац, то пасля выхаду біяграфічнага фільма іх колькасць узрасла да 60 тысяч!

Перад стартам праекта варта правесці аналіз мэтавай аўдыторыі. Адказаць на пытанні: які пакупніцкі патэнцыял выдання? дзе наш пакупнік набывае кнігі? дзе павінна знаходзіцца кніга, каб атрымаць поспех? Да прыкладу, на вакзалах і ў супермаркетах добра прадаецца масавая літаратура, даведачная — у аэрапортах, сур'ёзныя выданні — у стацыянарных кнігарнях. Важна памятаць таксама, што каля 75 працэнтаў чытачоў — жанчыны.

Такім чынам, у час распрацоўкі праекта трэба ведаць яго мэтавую аўдыторыю і пакінуць убаку свой уласны густ. Бывае, што нам падабаецца тэкст, але мы разумеем, што ў ім няма асаблівасцей, здольных зрабіць выданне ўнікальным. Канечне, можна пайсці на хітрыкі і падчас продажу прадстаўляць кнігу як адметную.

## ДАСЛЕДАВАННЕ САЦЫЯЛЬНЫХ АСЯРОДКАЎ

— Штогод у Германіі праводзіцца спецыяльнае сацыялагічнае даследаванне з удзелам 10 тысяч чалавек розных груп. Кожны ўдзельнік мае спецыяльны апарат, з дапамогай якога фіксуе ўсе свае пакупкі за пэўны перыяд часу. Каб атрымаць вынікі такога даследавання, камерцыйная ўстанова мусіць арганізатару заплаціць. Але гэта таго вартае: атрыманыя звесткі дазваляюць вызначыць мэтавую аўдыторыю шматлікіх прадуктаў, у тым ліку кніг. З такіх даследаванняў вынікае, што грамадства можна падзяліць на шэсць сацыяльных асяродкаў.

Прыкладна 5 працэнтаў насельніцтва з'яўляюцца кансерватарамі. Гэта людзі ва ўзросце ад 60 гадоў, якія маюць добрую адукацыю. Яны валодаюць выдатным густам, вялікімі грашовымі сродкамі, не набываюць масавую літаратуру.

Постматэрыялісты (людзі ва ўзросце ад 20 да 60 гадоў) добра адукаваныя, адкрытыя новым поглядам, касмапаліты. Даяраюць кнігам не больш, чым астатнім сродкам інфармацыі. Выданні набываюць рознымі шляхамі.

Трэцяя група — «людзі поспеху». Гэта новая эліта з прэтэнзіяй на эксклюзіўнасць ва ўзросце ад 30 гадоў, якой цікавы альбомы з рэдкімі фотаздымкамі, але не мастацкая літаратура. Такія людзі маюць шмат грошай, але як чытачы досыць павярхоўныя: ім важна не чытаць кнігі, а проста мець шыкоўныя экзэмпляры і хваліцца сябрам і калегам.

**Заканчэнне чытайце на стар. 10** ►

*Даляглядды*

# Адпачнём… на ілюстрацыі

**Гэтым летам на вуліцах Лондана з'яўляюцца незвычайныя лаўкі. Яны выкананыя ў форме кнігі і змяшчаюць ілюстрацыі да твораў, звязаных з брытанскай сталіцай. Праект атрымаў назву «Кнігі пра горад», а ініцыятарамі выступілі Нацыянальны фонд пісьменнасці і арганізацыя Wild in Art. Мэта праекта — даць чытачам унікальную магчымасць даследаваць адметнасці адлюстравання Лондана ў літаратуры, паказаць работы мастакоў шырокай грамадскасці. І, канечне, яшчэ раз нагадаць, што чытанне — надзвычай прыемны занятак.**



*Лаўка з ілюстрацыяй да «Машыны часу» Герберта Уэлса.*

У канцы лета ўсе лаўкі будуць прададзеныя на адмысловым аўкцыёне, а атрыманыя сродкі пералічаць на рахунак Нацыянальнага фонду пісьменнасці.

Але не трэба думаць, што сутнасць праекта «Кнігі пра горад» заключаецца толькі ў мастацкім прадстаўленні 51 кнігі класікаў і сучасных аўтараў. Гэта цэлая складаная сістэма, якая дапамагае ўзнавіць цікавасць да чытання.

Па-першае, адзін з твораў, які мусіць быць прадстаўлены на лаўцы, абралі чытачы газеты The Guardian. Для гэтага патрэбна было пазнаёміцца са спісам кніг, ужо складзеным арганізатарамі, і прапанаваць свой варыянт. У выніку 51-й кнігай стаў раман сучаснага і надзвычай папулярнага брытанскага аўтара Ніла Геймана Neverwhere. Па-другое, быў аб'яўлены конкурс на лепшае мастацкае выкананне лаўкі, прысвечанай творчасці Уільяма Шэкспіра. Вынікі будуць падведзены 31 жніўня. Па-трэцяе, адкрыццё чарговай лаўкі становіцца значнай грамадскай падзеяй, якая збірае мноства прыхільнікаў творчасці кожнага аўтара і, натуральна, прыбаўляе ўвагу патэнцыйных чытачоў.

І, урэшце, па-чацвёртае: на сваім сайце арганізатары прапаноўваюць адмысловыя парады па працы з дзецьмі. Метадычныя рэкамендацыі змяшчаюць спіс кніг з указаннем узросту чытача, пытанні віктарыны, складзенай на аснове абраных кніг (дарэчы, яе пераможцы атрымаюць падарункі — кнігі з аўтографамі і рэчы, пэўным чынам звязаныя з кнігамі), а таксама парады для дарослых, як зацікавіць чытаннем дзяцей.

Так, брашура, якую можна спампаваць на сайце www.booksabouttown.org.uk, раіць:

- пакладзіце кнігу для дзіцяці ў сваю сумку. Яна спатрэбіцца падчас доўгага чакання ў чарзе ці падарожжа;
- упэўніцеся, што дзеці ведаюць пра кнігі, якія ім могуць спадабацца: наведвайце разам з імі бібліятэку і прагдядайце навінкі ў кнігарнях;
- зрабіце так, каб дзеці самі чыталі ўслых — для сваякоў, сяброў, нават для цацкі ці свойскай жывёлы;
- звяртайце ўвагу на словы ў крамах ці надпісы на знаках;
- газеты, коміксы, часопісы — гэта ўсё можа быць карысным. Чаму б не пачытаць разам падчас сняданку?
- прасіце дзяцей знайсці для вас і прачытаць звесткі з інтэрнэту, даведнікаў;
- не адмаўляйцеся ад энцыклапедый, кніг у жанры нон-фікшн. Хлопчыкам яны могуць быць асабліва цікавымі.

Статыстыка Нацыянальнага фонду пісьменнасці сцвярджае: сёння ўсё больш маладых людзей лічаць, што чытаць — крута. Калі ў 2010 годзе колькасць чытачоў складала амаль 32 працэнты, то праз тры гады гэтая лічба павялічылася да 39 працэнтаў. Думаецца, праект «Кнігі пра горад» таксама будзе мець свой плён. Пабачыўшы надзвычай яркую і прыбабную лаўку з ілюстрацыяй да кнігі, нават даросла ледзь устрымаецца, каб не ўзяць у рукі томік з творам пра Лондан.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Фота з сайта booksabouttown.org.uk*

*Паралелі*

# Як правільна прадаць?




Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.

Самы малады асяродак — сучасныя тусоўшчыкі. Гэта нетрадыцыйная эліта з багатым рытмам жыцця. Людзі ва ўзросце да 30 гадоў, іх цікавіць культура і мастацтва, таму кнігі гэтага кірунку для іх асабліва актуальныя.

Самая вялікая група насельніцтва — вельмі ахвотныя спажыўцы, іх яшчэ называюць smart shoppers. Яны набываюць безліч раманаў, часцей — танныя кнігі ў мягкай вокладцы, дзіцячую і падлеткавую літаратуру. Гэта людзі сярэдняга ўзроўню прыбытку ва ўзросце ад 30 да 50 гадоў.

Эксперыментатары — новая індывідуалістычная багема, маладыя людзі ва ўзросце да 30 гадоў. Яны спантанныя, прытрымліваюцца авангарднага ладу жыцця. Выраслі на мультымедыя, і грошы іх не цікавяць. Інтарэсы — музыка, мастацтва і культура, а таксама кнігі на гэтыя тэмы.

Для выдаўцоў Германіі важна рабіць акцэнт на трох асноўных групах: кансерватарах, спажыўцах і эксперыментатарах.

Як працуе гэта на практыцы?

## ПАСВЕДЧАННЕ АБ НАРАДЖЭННІ

— Пры падрыхтоўцы рукапісу ў выдавецтве распрацоўваецца адмысловы маркетынг-мікс, што ўключае чатыры асноўныя пункты: таварную палітыку, цану і зніжкі, палітыку па збыце і камунікатыўную палітыку (рэклама, піяр і прасоўванне, якія ўсё часцей працуюць ва ўзаемасувязі). Важныя ўсе чатыры аспекты!

Так, пры распрацоўцы таварнай палітыкі для кожнага выдання ствараецца своеасаблівая «запіска» — так званае пасведчанне аб нараджэнні для кнігі. Тут указваецца выдавецтва, аўтар, назва кнігі, яе падзагаловак (калі выданне перакладное, то змяшчаюцца арыгінальная назва твора і імя перакладчыка), згадваецца рэдактар, што працуе з рукапісам, вызначаецца жанр (у далейшым гэта дапаможа пры распаўсюджванні выдання і вызначэнні маркетынгавай стратэгіі продажу). Запіска змяшчае таксама пол патэнцыйнага чытача, яго ўзрост, месца жыхарства (горад ці вёска), тут жа акрэсліваецца больш шырокае кола інтарэсаў: якія часопісы чытае і якія фільмы глядзіць, якія іншыя кнігі можна пабачыць на яго паліцы, згадваюцца і канкурэнты (падобныя па сюжэце творы); вызначаецца, у якім пераплёце выйдзе кніга і яе фармат. Тут жа ўказваецца індывідуальны нумар ISBN, кірункі працы з прэсай, дадатковая інфармацыя пра аўтара, а таксама іншыя важныя звесткі. Запіска — самы галоўны дакумент, з якім працуюць усе аддзелы выдавецтва. Яна дапамагае пры пазіцыянаванні кнігі і афармленні вокладкі (згадка пра чытача і канкурэнтаў спрашчае працу мастаку), а таксама дазваляе хутка знайсці памылку.

## КОШТ, ЖАНР, ВОКЛАДКА

— Няварта недаацэньваць уплыў вокладкі. Эфекты, рэльефныя паверхні могуць прывабіць чытача, асабліва калі вы ведаеце, якой аўдыторыі адрасавана кніга. Варта паклапаціцца, каб на паліцах кнігарняў не было падобных па афармленні выданняў. Гэта як бег навыперадкі — своеасаблівае спаборніцтва паміж выдавецтвамі на арыгінальнасць і густоўнасць афармлення.

Калі гаворка ідзе пра вызначэнне кошту кнігі, то варта ўлічваць, што, напрыклад, класічны чытач трылераў не будзе набываць рамана за 20 еўра, але аматары постмадэрнізму не пашкадуюць 23 еўра за стандартны раман аб'ёмам каля 300 старонак. Такая кніга, выдадзеная тыражом прыкладна 3 тысячы асобнікаў, можа разысціся за два гады. Калі інтарэс да выдання пачне падаць, то можна выпусціць гэты ж тыраж, толькі ў мяккай вокладцы, ён таксама будзе прададзены за два гады. Але часам раман атрымлівае надзвычайную папулярнасць, і другі тыраж выдання можа перавышаць першы ў чатыры ці нават шэсць разоў.

Добрая кніга ці кепская, чытач ацэньвае хутка. Самы прывабны, але і самы канкурэнтны — рынак вострасюжэтнай літаратуры. Што тычыцца фэнтэзі, то па вокладцы можна вызначыць прыналежнасць кнігі менавіта да такога жанру. Гэта прывабны, але абмежаваны рынак: мэтавая аўдыторыя — у асноўным маладыя людзі. Таму важна знайсці баланс паміж тыражом і коштам — не спалохаць патэнцыйнага чытача высокай цаной. Моладзь імкнецца ныбыць саліднае выданне па максімальна нізкай цане. Калі мы бачым, што кніга добра прадаецца, то можам сабе дазволіць без шкоды для поспеху павысіць кошт на 1-2 еўра.

Я заўважыў, што на кожным нацыянальным рынку склаўся свой непаўторны стыль вокладак. Калі бачу кнігі, якія выйшлі ў Вялікабрытаніі ці ЗША, то разумею, што ў Германіі яны не прадаваліся б. У прыватнасці, у Францыі амаль усе вокладкі выкананыя ў танах шампанскага, а пераплёт мяккі. У Германіі на афармленне вокладкі ўплывае стыль аўтара і серыя, у межах якой выдаецца твор. Як ні жадай, але кнігарню не папросіш прапаноўваць чытачу кнігу пэўнага выдавецтва. Тут перадусім мае значэнне імя аўтара ці тэматыка яго кніг.

## ХІТРЫКІ МАРКЕТЫНГАВАЙ ПАЛІТЫКІ

— Даследаванні паказваюць, што толькі 15 працэнтаў немцаў рэгулярна ходзяць у кнігарні. Таму пры фарміраванні тыражу наступнага выдання мы ўлічваем і вопыт продажаў, і папярэднія заказы, што пакідаюць кнігарні. Калі на стадыі збору папярэдніх заказаў мы бачым, што кніга можа не прадацца, ёсць яшчэ час скарэкціраваць канчатковы тыраж ці кошт, каб зменшыць выдаткі. Але калі часу на гэта ўжо няма, то застаецца толькі кусаць локці.

Ды заўсёды здараюцца прыемныя сюрпрызы: выданне папулярнае і паспяховае. Плёну можна дасягнуць і праз супрацоўніцтва выдавецтва і тэлеканалаў: рэкламная кампанія кнігі можа ўключаць трансляцыю роліка па тэлебачанні, размяшчэнне плакатаў у вялікіх гарадах, рэкламу непасрэдна ў кнігарні ці прэзентацыю на анлайн-каналах у інтэрнэце. Яе шырыня і гучнасць залежыць ад бюджэту. Часам плата тэлеканалу можа дасягаць 200 тысяч еўра. Існуе яшчэ адно пракляцце насычанасці рынку: аўтар і выдавец, што прадае правы на выданне перакладаў, патрабуюць ад замежнага выдавецтва значных гарантый, а таксама распрацаванай рэкламнай стратэгіі яшчэ на этапе перамоў пра набыццё правоў на выданне кнігі. У сярэднім 8 працэнтаў ад чыстага звароту выдавецтва выдаткоўваецца на рэкламу. Часта яна змяшчаецца ў гарадскіх часопісах і газетах.

Дарэчы, рэкламная кампанія плануецца толькі для 5 працэнтаў кніг выдавецтва, астатнія прадаюцца самі. Рэкламуюцца выданні з патэнцыялам, калі мы разумеем, што можам прадаць шмат асобнікаў гэтай кнігі, ці праекты, набыць правы на якія было складана і дорага. Зазвычай вынік рэкламнай кампаніі становіцца бачны ўжо праз 2 з паловай месяца пасля старту продажаў. Неабходна, каб 85 працэнтаў праектаў былі паспяховымі. Так мы зможам аплаціць выданне кніг для прэстыжу. Калі на кнігу адводзіцца некалькі старонак у сезонным каталогу выдавецтва — гэта маркер значнасці праекта, якім можа кіравацца гандляр пры афармленні заказаў.

## СПАЧАТКУ ТРЭБА… ПАНЮХАЦЬ

— У сваёй практыцы мы рэалізавалі некалькі цікавых задумак, напрыклад, супрацоўніцтва з інтэрнэт-магазінам абутку. Кожная з пакупніц пры набыцці пары туфель атрымлівала маленькую кніжачку — урывак з рамана. У той жа час крама абутку набыла магчымасць у больш як 150 тысяч асобнікаў укласці закладку — купон на 5-працэнтную зніжку на абутак. Калі ўсё правільна спланавана, то абодва бакі знаходзяцца ў выйгрышы. Пакупніца атрымлівае ўрывак з рамана ў падарунак, зацікаўленая, набывае кнігу і зноў вяртаецца ў краму па абутак, але ўжо набывае яго са зніжкай 5 працэнтаў. Некаторыя пакупнікі абурыліся такой сістэмай, маўляў, апусцілі кнігу да ўзроўню абутку. Але ж каб набыць неабходныя чаравікі, іх трэба памераць, а каб набыць духі — панюхаць. Так і з кнігай: спачатку трэба прачытаць урывак, і няважна, як ён трапіць да чытача.

Здараецца, што першы тыраж выдання можа быць нерэнтабельны, таму важна прадумаць і зрабіць папулярным наступны: ці то дадаць падарункавы дызайн, маленькі фармат для дзявочай сумачкі, ці то пераплёт з ільну. Такая кніга проста просіцца ў рукі. Але мы крыху падманваем чытачоў: спачатку ў такім прыгожым афармленні выходзілі высакаякасныя раманы. Калі яны скончыліся, мы сталі афармляць літаратуру больш нізкага гатунку. Планаваць падобныя праекты вельмі лёгка: мы ведаем мэтавую аўдыторыю, а ў выпадку, калі тыраж хутка скончыцца, не будзем дадрукоўваць новы. Да таго ж можна рабіць два варыянты афармлення вокладкі: для дарослых і падлеткаў.

Даследаванні паказваюць, што каля 50 працэнтаў кніг людзі набываюць у стацыянарных кнігарнях. Калі ж разглядаць сегменты рынку, дзе яшчэ магчымы рост, то варта прааналізаваць увесь жанравы спектр выданняў. Так, каля 35 працэнтаў кніг складае мастацкая літаратура. Дзіцячая і падлеткавая — 15,6 працэнта. Навукова-папулярная і даведачная — 24 працэнты. Дарэчы, гэты жанр заўважна страціў пазіцыі за апошнія гады, патэнцыйныя чытачы развучыліся чытаць доўгія тэксты і перадусім звяртаюць увагу на газеты. Кнігі пра падарожжы складаюць толькі 6 працэнтаў. Адметна, што адной з перспектыўных галін можа стаць выданне кніг-дадаткаў да школьных падручнікаў. Іх заўсёды з задавальненем набываюць бацькі для дзяцей.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*На паліцы*




# Клуб і яго гісторыя

У гісторыі клубнай культуры Беларусі дагэтуль існуюць «белыя плямы», бо тэма, скажам шчыра, лічыцца не надта істотнай. Аднак колькі артыстаў займелі магчымасць раскрыць свае таленты і атрымаць народнае прызнанне! Ці не варта было б удзяліць клубнаму руху больш увагі! У прыватнасці тым асобам, якія стваралі ўмовы для мастацкага самавыяўлення сваіх падначаленых.

Новая кніга «"Культура" — прафесія не для слабых» пазнаёміць з Валерыем Будняцкім, дзеячам культуры Беларусі і Расіі, арганізатарам сацыякультурнай дзейнасці Магілёва, Ханты-Мансійскай акругі, Ніжнявартаўска. Стваральнікам канцэпцыі выдання і кіраўніком праекта стаў вядомы этнахарэолаг Мікола Козенка. Выхад кнігі прымеркаваны да 70-годдзя Валерыя Будняцкага.

У новае выданне ўключаны гутаркі з юбілярам, віншаванні выхаванцаў і калег, выбраныя артыкулы з перыёдыкі, жыццяпіс Валерыя Залманавіча ў фотадакументах. Чытач пазнаёміцца з Валерыем Будняцкім, даведаецца пра яго складаную і насычаную падзеямі прафесійную дзейнасць, прасочыць маршруты вандровак.

У перыяд працы на пасадзе дырэктара Дома культуры Магілёўскага аўтазавода Валерый Будняцкі сабраў вакол сябе прафесіяналаў высокага класа (сёння — вядомых дзеячаў культуры Беларусі — М. Дудчанку, В. Гаявую, В. Пухарта) для стварэння новых разнажанравых калектываў. Аўтар фундаментальных публікацый па праблемах захавання народнай культуры, развіцця аматарскай творчасці, ён імкнуўся стварыць мадэль сістэмы сацыякультурнай дзейнасці ў ведамаснай прасторы, узаемазвязаныя складнікі якой галоўная ўстанова культуры, дзіцячыя садкі, агульнаадукацыйныя і музычныя школы, прафесійна-тэхнічныя вучэльні, упраўленчыя канторы, усе цэхі аб'яднання і яго дачныя прадпрыемствы, у тым ліку і сферы гандлю. У выніку напрацоўкамі В. Будняцкага ў сферы культуры і прафсаюзных спраў карысталіся не толькі ў Беларусі, але і на тэрыторыі ўсяго СССР.

Кнігу пры падтрымцы сяброў атрымалася выдаць накладам толькі ў 10 асобнікаў, але яе значнасць для летапісу беларускай культуры відавочная. Тут адлюстраваная цэлая эпоха клубнага жыцця нашай краіны на прыкладзе прафесійнага шляху аднаго з адметных прадстаўнікоў. Кніга будзе карыснай і работнікам сферы культуры, а таксама ўсім, хто цікавіцца яе гісторыяй, сучасным станам і перспектывамі.

**Вячка КРАСУЛІН**

# Ганчарства звініць!

**Мастацтва керамікі, якое ў мінулым стагоддзі прыйшло ў заняпад, зноў набывае вялікую папулярнасць. Сведчаннем таму — VII рэгіянальнае свята-конкурс «Гліняны звон», якое ў другі раз прайшло ў Івянцы і, паводле прадстаўнікоў валожынскіх улад, будзе праходзіць раз на тры гады.**



*Алег Капуста дэманструе івянецкую фляндроўку.*

Больш як 40 майстроў сабраліся сёлета ў старажытным пасёлку, каб прадэманстраваць свае майстэрства ў розных творчых спаборніцтвах, а таксама прадставіць хатнія калекцыі. Традыцыйна «фестываль гліны і агню» наведваюць замежныя госці. Гэтым разам сюды завітала некалькі аўтобусаў з турыстамі, якія з ахвотай набывалі ўпадабаныя вырабы, а некаторыя пад кіраўніцтвам майстра асмеліліся ўпершыню сесці за ганчарны круг.

Фэст керамічнага мастацтва славіцца не толькі творчымі дасягненнямі майстроў, але і сваёй гісторыяй. Першая сустрэча ганчароў адбылася ў 1996 годзе на багатай народнымі традыцыямі Любанскай зямлі, дзе сваё ўменне дэманстравала каля 30 майстроў са сталічнай вобласці, госці з Віцебшчыны. З таго часу гэты фэст заваяваў папулярнасць і стаў пачаргова праводзіцца ў цэнтрах айчыннага ганчарнага рамяства.

— «Гліняны звон» можа быць узорам для ўсёй Беларусі, — зазначыў старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, прафесар Яўген Сахута. — Яго ўдзельнікі і арганізатары падтрымліваюць, адраджаюць і развіваюць адно з самых старажытных рамёстваў. Сёння ганчарства жыве дзякуючы падтрымцы майстроў старэйшага пакалення і іх вучняў. Падчас свята творцы жадаюць і сябе паказаць, і на іншых паглядзець. Расце цікавасць да гліны ў дзяцей: хлопчыкі і дзяўчынкі ахвотна займаюцца дробнай пластыкай, бо яна даступная і не патрабуе асаблівых умоў. Але галоўнае — ёсць пераемнасць пакаленняў і традыцый!

Упершыню ў летапісах ды іншых крыніцах ганчарныя вырабы з Івянца згадваюцца ў XVI стагоддзі. Хаця беларускай кераміцы ўласцівы пэўныя агульныя рысы, кожная школа мае свае адрозненні. Івянецкая пачала вылучацца з сярэдзіны XIX стагоддзя формамі, шырынёй асартыменту і адмысловым дэкорам. А праз стагоддзе івянецкая кераміка набыла шырокую вядомасць дзякуючы фляндроўцы (арыгінальнаму падглазурнаму роспісу), жыццё якой даў вядомы тутэйшы ганчар Вітольд Кулікоўскі.

— Сёння ў пасёлку восем прыватных майстэрань, іх гаспадары працуюць у якасці індывідуальных прадпрымальнікаў і паспяхова працягваюць ганчарныя традыцыі, — распавёў Алег Раманоўскі, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, які ў свой час стварыў Івянецкі музей традыцыйнай культуры. Як і раней, існуе івянецкая школа керамікі, росквіт якой прыпадае на 1920 — 1930-я гады. Тады было вельмі шмат ганчарных майстэрань, якія наведвалі дзясяткі вучняў — прыязджалі нават з-за мяжы. Аднойчы ў Польшчы да мяне падышла пані і расказала, што калісьці яе бацька на працягу двух гадоў вучыўся майстэрству ў нашых мясцінах. Сама жанчына лепіць вельмі падобныя да івянецкіх цацкі-свістулькі. Мяне гэта ўразіла. Многія ганчары пасля вайны з'ехалі адсюль у Польшчу і дзесьці нават заваявалі рэгіянальны рынак!

А яшчэ ў Івянцы строга прытрымліваюцца спрадвечных форм, характэрных для керамікі. «Збан павінен быць збанам, гаршчок — гаршком, — лічыць Алег Раманоўскі. — І не трэба іх змяняць — ідэальная форма прыдумана тысячагоддзі таму». Такія вырабы вабяць не толькі прыгажосцю, але і ўтылітарнымі функцыямі.

Ужо трыццаць гадоў дзейнічае ў Салігорскім раённым цэнтры дзіцячай творчасці заслужаны аматарскі калектыў «Скарбонка», якім кіруе Мікалай Пратасеня. Яго наведваюць хлопчыкі і дзяўчынкі пачынаючы з 3 класа. Многія і потым не забываюцца пра кераміку і паступаюць у сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы. А на канікулах прыходзяць у студыю — тварыць. Вось і гэтым разам у Івянец прыехала паўдзельнічаць у конкурсе Таццяна Проніна, якая цяпер вучыцца кераміцы на мастацка-графічным факультэце Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава.

Ад каго было пераймаць традыцыі ў маладым горадзе шахцёраў? Таму, як толькі была створана студыя, выкладчыкі разам з дзецьмі выправіліся ў экспедыцыю. Спачатку наведаліся ў Дарасіно — некалі вялікі ганчарны цэнтр, дзе пазнаёміліся з майстрамі. Тыя ахвотна дзяліліся сакрэтамі. Пасля — колькі вандровак у Клецкі раён. Там сустрэліся з Уладзімірам Вярэйкам, які адкрыў сакрэты абварной керамікі. Адзін з педагогаў студыі Аляксандр Кірычак не толькі асвоіў старадаўняе рамяство, але і задаў сучасныя матывы. Дарэчы, яму была прызначана дзяржаўная стыпендыя Міністэрства культуры за ўзнаўленне беларускай абварной керамікі.

Святочныя гадзіны праляцелі непрыкметна. У кожным конкурсе мусілі вызначыцца лепшыя майстры. Па рашэнні кампетэнтнага журы на чале з Яўгенам Сахутам Гран-пры атрымаў майстар з Івянца Алег Капуста. У намінацыях “За высокае прафесійнае майстэрства, мастацкі густ і асабісты ўнёсак у развіццё традыцый ганчарства” сталі лаўрэатамі Мікалай Стрэльчанка з Лагойскага раёна, “За лепшы гліняны музычны інструмент” — Міхаіл Бруй з Салігорскага раёна, “За асабісты ўнёсак у выхаванне падрастаючага пакалення, арганізацыю пераемнасці мастацкіх традыцый апрацоўкі гліны («Лепшаму настаўніку»)” — Мікалай Пратасеня (пра якога ўжо ўзгадвалася) і Леанарда Капуста (Валожынскі раён). У спецнамінацыі «Лепшаму сямейнаму калектыву ганчароў» лаўрэатамі сталі майстры з Івянца Уладзімір і Вераніка Скрыпкі разам са сваімі дочкамі Дар'яй і Настасьяй. Дарэчы, шасцігадовая Настасся атрымала ад арганізатараў каштоўны падарунак як самая юная ўдзельніца фэсту.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**



*Настасся Скрыпка, шасцігадовы ганчар.*



*Работы сямейнага дуэта Наталлі і Алега Сабічаў з Нясвіжскага раёна.*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2315.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 07.08.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3202.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686